ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 10 (2589)
ПЯТНІЦА
10
сакавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**ПЕРШАЕ СЛОВА** ў беларускай сцэнічнай Ленініяне было яго, народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Саюза ССР Паўла Малчанава. На гэтым здымку — дыспут Уладзіміра Ільіча з інжынерам Забеліным («Крамлёўскія куранты», Другі БДТ, год 1940). Малчанаў і яго партнёр па спектаклі народны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Цімох Сяргейчык ігралі незабыўны эпізод з сапраўдным унутраным захапленнем; гэта быў паядынак сталай думкі з недаверам, паядынак, дзе ленінскае ўменне мысліць так, каб пераканаць і перавесці на свае пазіцыі самага ўпартага апанента, праявілася надзвычай ярка.

Здаралася так, што ў наступны вечар Малчанаў выступаў, скажам, у ролі Бобчынскага, і тады малчанаўскі маленькі чалавечак з правінцыі так смешна і крануальна маліў «сталічную штучку» Хлестакова, (а гэтай штучкай быў бліскучы Аляксандр Ільінскі, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Саюза ССР), каб там, у Пецярбурзе, абавязкова ведалі: жыве недзе ён, Павел Іванавіч Бобчынскі. Пераўвасабленне артыста здзіўляла і ўзрушала залу.

Пяцьдзесят гадоў на сцэне... З першых крокаў у Беларускай студыі ў Маскве 1922 года і па сённяшні дзень гэты артыст не ведае ніякай іншай справы, якая паглынала б яго інтарэсы дарэшты,— ёй, роднай сцэне, самааддана і паслядоўна служыць Павел Сцяпанавіч. Сыграна многа роляў — трагедыйных і сатырычных, востра характарных і рэзанёрскіх. Ад Кутаса ў купалаўскіх «Прымаках» да Гамлета (паводле Бялінскага, гэты твор Шэкспіра — «бліскучы алмаз у прамяністай кароне цара драматычных паэтаў, якога вянчае славай усё чалавецтва і які ні раней, ні пасля сябе не мае суперніка...»), ад Шышкі ў драме «Вайна — вайне» Я. Коласа да горкаўскага Пярчыхіна, ад Косці-капітана ў «Арыстакратах» М. Пагодзіна да Глуздакова ў камедыі «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка... Які дыяпазон і якая мазаіка сцэнічных партрэтаў, зробленых заўжды ўдумліва, па-тэатральнаму ярка, з псіхалагічным паглыбленнем у сутнасць чалавечай істоты і з ясным адчуваннем яе месца ў грамадскіх зрухах!

Большасць з вобразаў, створаных Малчанавым, мае сваю ўнутраную музыку, часамі поўную кантрастных адценняў, выразную ў рытмічным малюнку. Майстар пераўвасаблення, ён дае завершаны пластычны, віртуозна адшліфаваны ў руху, жэсце і мімічы партрэт таго, каго паказвае ў святле рампы. Гранічна пунктуальны ў перадачы аўтарскай задумы, ён заўсёды раскрывае свае асабістыя адносіны да зла або дабра, да гераізму або здрады, увасобленых у гэтым вобразе гэтым пісьменнікам і зразуметых гэтым рэжысёрам.

Малчанаў выступае і як кінаакцёр, ставіць спектаклі як рэжысёр, чытае літаратурныя творы на эстрадзе і па радыё, застаецца сам-насам з гледачом на блакітным экране тэлевізара. Але галоўнай і ўсепаглынальнай страсцю яго была і ёсць драматычная сцэна. Гісторыя Першага і Другога (цяпер яны носяць імёны Я. Купалы і Я. Коласа) тэатраў непарыўна звязана з яго творчым гарэннем і ўпрыгожана незабыўнымі вобразамі, узорамі высокага артыстычнага майстэрства. Рыцар беларускай сцэны — у такім тытуле не будзе перабольшання, калі мы так назавем Паўла Сцяпанавіча Малчанава ў дзень яго 70-годдзя.

Матэрыялы, прысвечаныя юбілею П. С. Малчанава,—на стар. 8—9.

# ТАК—МІРУ, НЕ—АГРЭСІІ

*II БЕЛАРУСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПРЫХІЛЬНІКАЎ МІРУ*

**Свету—мір! Вось ужо колькі гадоў гэтыя словы—дэвіз усіх людзей добрай волі на зямлі.**

**Самыя выпрабаваныя барацьбіты за мір—савецкія людзі. Гэта яны першыя гавораць не агрэсіі, дзе б яна ні ўзнікла. Гэта яны не словам — справай змагаюцца з імперыялізмам — зацятым ворагам свабоды.**

**Увагу грамадскасці рэспублікі прыцягнула II Беларуская рэспубліканская канферэнцыя прыхільнікаў міру, якая адбылася 6 сакавіка ў Мінску, у Палацы культуры прафсаюзаў.**

**На канферэнцыі былі заслуханы даклады члена Сусветнага Савета міру, старшыні Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру І. П. Мележа «Актуальныя праблемы барацьбы за мір у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС» і старшыні Рэспубліканскай камісіі садзейнічання фонду міру З. І. Азгура «Актыўны ўдзел у мерапрыемствах Савецкага фонду міру — патрыятычны абавязак працоўных рэспублікі».**

**Групе прыхільнікаў міру, а таксама асобным калектывам былі ўручаны медалі, ганаровыя граматы, памятныя жэтоны, якіх яны ўдастоены за актыўны ўдзел у дзейнасці Савецкага фонду міру.**

**Канферэнцыя прыняла рэзалюцыю па справаздачных дакладах, а таксама рэзалюцыі: «Свабоду і мір народам Індакітая» і «Еўропе — трывалы мір». Быў выбраны Беларускі рэспубліканскі камітэт абароны міру і Рэспубліканская камісія садзейнічання фонду міру.**

**Старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру абраны пісьменнік І. П. Мележ. Старшынёй Камісіі садзейнічання фонду міру выбраны народны мастак БССР З. І. Азгур.**

**У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў М. Н. Полазаў.**



**У перапынку паміж пасяджэннямі канферэнцыі прыхільнікаў міру. Народны артыст БССР мастацкі кіраўнік народнага ансамбля песні і танца Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна А. Рыбальчанка, Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса імя XXII з'езда КПСС М. Хаванскі, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР звеннявая калгаса імя М. В. Фрунзе Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці Т. Залуцкая, заслужаная настаўніца БССР з 27-й школы Бабруйска Я. Пушкарова і старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру пісьменнік І. Мележ.**

Фота Ул. КРУКА.

## АБМЯРКОЎВАЕЦЦА ПАСТАНОВА ЦК КПСС

На гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта адбыўся адкрыты партыйны сход, на якім была абмеркавана Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».

З дакладам «Задачы партыйнай арганізацыі факультэта ў святле патрабаванняў Пастановы ЦК КПСС» выступіў дацэнт кафедры беларускай літаратуры М. Янкоўскі. Дакладчык ахарактарызаваў работу прафесарска-выкладчыцкага факультэта ў галіне літаратурнай крытыкі, расказаў пра дзейнасць літаратурна-творчага аб'яднання «Крыніца».

На сходзе выступілі прафесары Ул. Анічэнка, І. Мужаў, П. Ахрыменка, дацэнт В. Сабаленка, студэнт П. Раманенка і інш. Яны падзяліліся вопытам навукова-даследчай работы, зрабілі прынцыповыя заўвагі пра недахопы ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў-літаратараў на факультэце.

Сход намеціў канкрэтныя меры па паляпшэнні падрыхтоўкі літаратурных крытыкаў, павышэнні іх прафесійнага ўзроўню.

**Л. КАЗІМІРСКІ,**
**студэнт.**

Гомель.

*Дзень першы*

## СТАРШЫНЯ ВЫКАНКОМА

Сяргей Сцяпанавіч Лінг. 34 гады. Вышэй сярэдняга росту, хударлявы. Тонкі смуглявы твар, тонкія кісці рук. Мінчанін, а пацягнула да «вясковай» прафесіі—скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў аграномам, начальнікам раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі ў Салігорску, пасля ў Слуцку. Старшынёй райвыканкома абралі год таму.

...Заходзяць у кабінет без дакладу. Калі старшыня заняты, садзяцца ля сцяны, чакаюць. Чакаю і я. Да мяне два чалавекі. Камандзіровачны з Мінска і старшыня сельсавета. Камандзіровачны просіць падрыхтаваць яму нейкія звесткі па фінансавых пытаннях.

— Зноў?—здзіўляецца Лінг. — Некалькі месяцаў таму ад вас выязджала цэлая група па гэтыя лічбы.

Камандзіровачны чырванее, просіць абмаляваць аблічча сваіх папярэднікаў.

— Чаму ж мяне зноў выправілі ў такую камандзіроўку?

— Не ведаю,—усміхаецца старшыня,—але, калі ласка, усё, што вам трэба, дамо.

У сельсаветчыка цэлы шэраг, як кажуць, гарачых пытанняў. Як размеркаваць камбікармы, як арганізаваць прыём прыватнай жывёлы...

— Мо трошкі ліміт павялічыце, Сяргей Сцяпанавіч? —просіць сельсаветчык.—Хутка буду ад людзей хавацца,—жыць не даюць—чаму не прымаюць жывёлу, дый годзе.

Лінг некуды звоніць, некага просіць.

— Пакуль не выходзіць. Пацярпіце месяц, другі...

Сельсаветчык падымаецца, ідзе да дзвярэй, раптам вяртаецца:

— Эге-ж, ледзь не забыў. Чаму гэта электрапастухі сталі даражэйшыя? Мне ўжо старшыні калгасаў скардзіліся.

— Даражэйшыя, бо новай мадыфікацыі. Раней як было? Пачытаў кніжку пастух пятнаццаць хвілін і бяжы латаць провад—тыкнулася карова і—разрыў. Новы ж на трох рэжымах працуе. Надзейны механізм. Яму б, вядома, рэкламу належную, анатацыю. Дык жа пра гэта ж ніхто не думае,—злуецца старшыня.

— Ну дык я так і растлумачу,—гаворыць сельсаветчык.

Я шмат працаваў у раёне, ведаю,— у галавы раённай Савецкай улады ні мінуты спакою. Трэба вырашаць дзесяткі розных пытанняў, звязаных з сельскай гаспадаркай, прамысловасцю, народнай асветай, аховай здароўя, культурай, гандлем. Тут не скажаш, не адмахнешся «я не спецыяліст, я не разбіраюся». Павінен ведаць, павінен арыентавацца.

Пра Лінга кажуць, што ён усё помніць, усё ведае. Расказваюць пра таямнічую запісную кніжку старшыні, дзе ёсць звесткі пра усё і пра ўсіх.

— Кніжка такая існуе, толькі, вядома, не пра ўсё і не пра ўсіх,—у вачах Сяргея Сцяпанавіча вясёлыя агеньчыкі.—Хаця той-сёй яе і пабойваецца.

Ён выцягвае тоўстую мо ў сто старонак запісную кніжку ў шэрай калянкоравай вокладцы. Раскрывае. Разлінаваныя старонкі спярэшчаны сотнямі лічбаў.

— Некалькі гадоў заношу сюды ўсё, што звязана з эканомікай калгасаў і саўгасаў раёна — ураджайнасць збожжа, бульбы, лёну, буракоў, іх валавы збор, пагалоўе жывёлы, яе прадуктыўнасць, аплата працы хлебаробаў па ўсіх катэгорыях і г. д. і д. п.

Вось за мінулую пяцігодку закончыў такую кніжку, летась завёў новую. Лічбы гэтыя—ого, які повад для роздуму. Бывае засе дзішся за імі ўвечары, дык і пра сон забудзешся.

— Случчына не Чэрвеньшчына,—кажу,—тут спакон веку ўсё добра расло, багаты край...

— Так, так, пазнаю знаёмы голас,—звужае вочы старшыня,—у Слуцку адны чарназёмы, кій уваткні, назаўтра дрэва вырасце. І працаваць, і думаць не трэба...

Сяргей Сцяпанавіч гартае кніжку.

— Вось вам некалькі лічбаў. У 1965 годзе сярэдні ўраджай збожжа складаў 16 цэнтнераў з гектара, летась—26,8. Я разумею—пагектарныя лічбы не вельмі ўражваюць. Там спісалі, там скармілі... Але, калі ласка, вось вам—у 1965 сабралі 49,6 тысяч тон збожжа, летась—74 тысячы. Гэта амбарнае збожжа. Тое самае з малаком і мясам. Валавая вытворчасць малака вырасла з 33 да 54 тысяч тон, а мяса з 7 200 да 11 500 тон. Рост? Рост! За лік чаго? Інтэнсіфікацыі? Правільна. Толькі тая інтэнсіфіка-

ПЯЦІГОДКА, ГОД ДРУГІ

# СЛУЦКІ

**НЕВЯЛІКІ двухпавярховы будынак у цэнтры Слуцка. Шыльда на ім: «Выканком раённага Савета дэпутатаў працоўных». Штаб раённай савецкай улады. Тут кожны дзень вырашаюцца дзесяткі розных пытанняў бліжняга і дальняга прыцэлаў, тактыкі і стратэгіі раёна. Уважліва аналізуецца, колькі надоена малака за тыдзень і карэкціруецца лічба асушаных тарфянікаў на канец пяцігодкі, плануецца правядзенне чарговага свята песні і жыллёвае будаўніцтва на бліжэйшыя гады.**

**Некалькі дзён я правёў у гэтым штабе. Былі сустрэчы з вельмі цікавымі людзьмі. На жаль, пра ўсіх не дазваляе расказаць газетная плошча. Выбраў трох — старшыню райвыканкома, загадчыка аддзела культуры і раённага архітэктара.**

**Кожны вечар, вяртаючыся ў гасцініцу, занатоўваў усё, што бачыў і чуў за дзень. Зараз, расшыфроўваючы блакнот, убачыў, што атрымаўся своеасаблівы дзённік-хроніка. Некалькі старонак з яго я прапаную ўвазе чытача.**

# ЧАЛАВЕК ПРЫЙШОЎ У МАГАЗІН...



*На пытанні карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» адказвае намеснік міністра гандлю БССР М. С. НАЗАРАЎ.*

**НЕЯК ВЫБІРАЮЧЫ** падарунак сяброўцы, я доўга стаяла ля прылаўка, прыглядаючыся да тавараў. Прасіла паказаць адно, другое. Але ўсё — не тое... І, вяртаючы чарговую рэч дзяўчыне, што стаяла за прылаўкам, я адчувала сябе няёмка за пераборлівасць.

— Прабачце, але і гэта не падыходзіць...

На твары дзяўчыны ні раздражнення, ні нецярплівасці.

— Не бяда! Не ўзялі вы, возьме нехта іншы.

І праўда! Хіба не возьме? Возьме, калі няма з чаго выбраць. А прыгажуня-прадаўшчыца — стой сабе за прылаўкам і не турбуйся.

І тады ж падумалася. А што, калі тавараў будзе гэтулькі, што «бяры — не хачу». Што тады? А тады скончыцца «салодкае» жыццё такіх прадаўшчыц. Урэшце, канчаецца яно ўжо сёння. Новыя тавары з'яўляюцца кожны дзень. І гэта заканамерна, бо набірае тэмп новая пяцігодка. Пяцігодка, якая пройдзе пад знакам няўхільнага росту багацця. Рэзка ўзрасце вытворчасць тавараў шырокага ўжытку. І вось калі на прылаўках будзе стаяць не 5—8 марак тэлевізараў, а скажам,— 20—25, ці застанецца наша знаёмая прадаўшчыца такой эпічна спакойнай? Думаем, не.

Курс на павелічэнне тавараў масавага ўжытку цягне за сабой цэлы шэраг тэхнічных, эканамічных, маральных і псіхалагічных праблем.

Пастанова «Аб некаторых мерах па паляпшэнні гандлю і яго тэхнічнай аснашчанасці» і накіравана на вырашэнне некаторых з іх.

Менавіта з гэтага і пачалася наша гутарка з намеснікам міністра гандлю БССР М. С. Назаравым.

— Толькі для таго, каб «пераварнуць» масу новых тавараў, спатрэбіцца не толькі павелічэнне магазінаў, але і новыя формы гандлю,— гаворыць ён.— Пастанова накіравана перш за ўсё на тое, каб дапамагчы работнікам гандлю. **Падвесці, так сказаць, пад гандаль тэхнічную базу.** Нам будзе аказана значная дапамога. Ужо да канца пяцігодкі мы атрымаем высокапрадукцыйныя эканамічныя лічыльныя машыны з падсумоўваючай канструкцыяй. Прадугледжваецца абсталяваць магазіны пагрузачна - разгрузачнымі механізмамі, пад'ёмнікамі, халадзільнымі ўстаноўкамі, якіх у нас яшчэ вельмі мала.

Міністэрствам машынабудавання і прыборабудавання, а таксама шэрагу іншых міністэрстваў даведзены канкрэтныя заданні па выпуску спецыяльных машын для гандлю і для прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

Я звяртаю ўвагу субяседніка на тое месца ў пастанове, дзе запісана: «...стан гандлю ў краіне яшчэ не адпавядае патрабаванням, якія да яго ставяцца».

— Як зжываюцца недахопы? У пастанове ж, у прыватнасці, падкрэсліваецца адказнасць гандлёвых работнікаў за асартымент і якасць тавараў. Не сакрэт, што дагэтуль існуе думка, што прадавец толькі пасрэднік паміж прамысловым прадпрыемствам і пакупніком. Так сказаць, «за што купіў, за тое прадаю». А ў пастанове праводзіцца думка, што работнікі гандлю павінны наладзіць самы строгі кантроль за якасцю і асартыментам тавараў.

— Так, нашы ўзаемаадносіны з прадпрыемствамі зараз будуюцца на прамых дагаворах. Мы дыктуем ім, што выпускаць і ў якой колькасці. Мы маем права забракаваць пастаўлены нам тавар. І прадавец, які прапануе вам няякасны тавар, элементарна парушае правілы савецкага гандлю. Акрамя таго, пры Міністэрстве ёсць інспекцыя па якасці. У яе — вялікія правы, а ў сувязі з новай пастановай яны яшчэ больш павялічваюцца.

Што мы робім для паляпшэння якасці? Дрэнныя тавары мы проста не прымаем. Так, летась, мы адмовіліся прыняць партыю швейных вырабаў Віцебскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», абутковага аб'яднання «Прамень», Пінскай трыкатажнай фабрыкі і г. д.

У плане новай пастановы мы аба-

цыя вельмі хітрая рэч. Ніяк яна на пустым месцы не хоча ўладкавацца. Да той інтэнсіфікацыі мы многае ў нас паламалі, памянялі, што ўкаранілася, стала традыцыяй.

Старшыня загараецца. Відаць, размова гэтая зачапіла яго за жывое.

— Вы ж, мабыць, ведаеце, колькі ў нас раней давалася рэкамендацый па сельскай гаспадарцы. Што ні месяц, то новы рэцэпт, новыя лекі. Ну, кажуць, ужо гэтыя лекі універсальныя ад ўсіх хвароб. То аб'яўлялася вінаватай ва ўсім канюшына, то бульба, а ў жывёлагадоўлі тых рэцэптаў і не пералічыш—то чатыры разы даі, то два, то рабі ў свіней разгрузачныя дні, то не рабі.

Я, вядома, не супраць пошукаў.

М. ЗАМСКІ

# ДЗЁННІК

Пошукі патрэбныя. Я толькі супраць шарахання з аднаго боку ў другі.

Узяць, скажам, матэрыяльную зацікаўленасць. Неабходная ўмова развіцця кожнай гаспадаркі? Праўда? Але ж і ёю трэба разумна карыстацца, інакш можа яна стаць тормазам. Так, так, тормазам. З такой з'явай мы сутыкнуліся ў нас. Быў час, калі многія нашы калгасы навыперадкі імкнуліся лепш заплаціць хлебаробам. Ты даў два з палцінай, дык я дам тры рублі. У выніку—што гаспадарка зарабляла, тое амаль і праядала. А на якія шышы, даруйце, купіць новы трактар, аўтамашыну, пабудаваць кароўнік, свіран, прыкупіць жывёлы? Адным словам, перспектывы ніякай.

Прааналізавалі мы становішча ў кожнай гаспадарцы і моцна задумаліся. І кіраўнікоў калгасаў папрасілі задумацца. Некаторыя — у бутэльку, маўляў, мы на матэрыяльную зацікаўленасць замахваемся. А па сутнасці ж на аплату замахваліся яны самі. Бо без моцнай эканомікі, якая можа быць аплата? Сёння ты яшчэ добра заплаціў, а заўтра, паслязаўтра, калі ўраджаі ў цябе не растуць, калі прадукцыйнасць жывёлы падае? Урэшце, перакапалі...

Сяргей Сцяпанавіч гартае кніжыцу, знаходзіць патрэбную старонку.

— Вось паслухайце. За апошнія пяць гадоў асноўныя фонды ў калгасах выраслі амаль у паўтара разы. Гэта дало магутны штуршок развіццю гаспадарак. Грашовы даход павялічыўся з 19 да 34 мільёнаў рублёў.

— А аплата працы?—пытаюся я.

— А аплата вырасла ў паўтара раза.

— Якім чынам? Вялікія ж сродкі былі накіраваны на накапленне асноўных фондаў...

— Вельмі проста. Умацавалася эканоміка—павялічыліся прыбыткі і, натуральна, аплата працы. Чым больш сродкаў укладаецца, тым большая аддача. Такога курсу мы трымаемся, і ён, думаецца, правільны.

Гэта не значыць, вядома, што ўсе праблемы ў нас вырашаны. Зараз у нас на кантролі некалькі вузлавых момантаў. Па-першае, карэннае паляпшэнне зямель. Сюды ўваходзяць меліярацыя, вапнаванне, угнойванне і г. д. Кожны год мы ўводзім у эксплуатацыю да 2 600 гектараў асушаных тарфянікаў.

Па-другое, механізацыя. Са збожжам у нас усё ў парадку. З бульбай таксама больш-менш. Застаюцца цукровыя буракі і лён. Тут мы прымаем самыя экстраныя захады. Якія? Набываем уборачныя камбайны. Пазалетась іх было ў нас 15, летась ужо 35, якімі ўбралі 520 гектараў буракоў.

Цяжэй з ільном. Шмат яшчэ ручной работы. Ды і дзіўна неяк атрымліваецца. Нават пасля машыннай уборкі заводы патрабуюць, каб ім здавалі трасту адсартаваную ўручную. Значыць, звяжы сноп, ды рукамі яго абяры — каліва да каліва.

— А тут яшчэ рабочых не хапае, —заўважаю я.

— Так, людзей не густа. Адсасвае горад, прамысловасць. Адзін выхад, адзіны ратунак, паўтараю, механізацыя.

— Але ж і механізацыя не без людзей.

— А мы вось што робім. Летась пры гаспадарках стварылі пяцімесячныя курсы механізатараў. Прапусцілі праз іх 500 чалавек, якім захавалі сярэднюю заработную плату. Сёлета пасадзім за парты яшчэ 200 чалавек. Вось вам і салідны рэзерв механізатараў. Улічыце, што па раёне кожны год машынна-трактарны парк павялічваецца на 100—120 адзінак.

А вось яшчэ праблема. Людзі неахвотна ідуць працаваць на ферму. Хаця заработкі там выдатныя. Даярка недзе ў сярэднім рублёў дзвесце ў месяц зарабляе. І тым не менш знайсці даярку—праблема. Чаму? Раней палявод атрымліваў недзе ў чатыры разы меней за жывёлавода. Зараз гэтыя суадносіны складаюць недзе адзін к двум. Дык у палявода зімой рабочы дзень 6—7 гадзін, а даярка цёмна ўстае, цёмна кладзецца. А дома яшчэ свая гаспадарка... Тут таксама адзіны выхад—поўная механізацыя.

Сяргей Сцяпанавіч трэ пальцамі лоб.

Бачыце, колькі пытанняў. Галоўнае—лічыць і аналізаваць, яшчэ раз лічыць і яшчэ раз аналізаваць. Вось мы зараз занепакоены нашымі саўгасамі. Адстаюць яны ад калгасаў па ўсіх паказчыках. І па ўраджаі, і па прадукцыйнасці жывёлы, па аплаце працы, па забеспячэнні асноўнымі фондамі. Сказаць, каб землі там горшыя былі, дык не. Саўгасы, праўда, усе спецыялізаваныя, падначаленыя розным трэстам. Відаць, нешта недагледжана ў самой арганізацыі працы. Скажам, пачынаюць скарачаць штаты, дык не па-людску—ліквідавалі пасады аграномаў па аддзяленнях. Гэта ж трэба дадумацца эканоміць на аграномах.

...І яшчэ адна сустрэча з Лінгам. На пасяджэнні выканкома райсавета. Ішоў на пасяджэнне—думаў на цэлы дзень. Па старым вопыце помню. Чалавека выклікаюць «на выканком» у дзесяць, чакае ён, ацірае сцены да шасці.

Тут усё зрабілася за дзве гадзіны. Мінімум слоў, максімум справы.

Абмяркоўвалі стан гандлю ў Грэскім сельсавеце. Далажыў старшыня сельсавета, затым супрацоўніца райвыканкома, якая правярала пасля старшыні сельпо, санітарны ўрач, старшыня райспажыўсаюза.

Мяркуючы па ўсім, гандлююць там дрэнна. І тавары ў час не завозяцца, і магазіны не па графіку працуюць, і жульніцтва нават заўважана.

Апошнім дае тлумачэнні старшыня райспажыўсаюза, мужчына сярэдніх гадоў. Пачынае адразу крытыкаваць сельскі Савет.

— Сельсавет мы самі пакрытыкуем,—кідае рэпліку Лінг,—лепш скажыце, як вы на ўсё гэта рэагуеце? Я сядзеў, назіраў за вамі, вы нават не запісвалі, пра што тут сёння гаварылі...

— Рыхтуючы дастойную сустрэчу слаўнаму юбілею, — пачынае старшыня райспажыўсаюза, — наша арганізацыя ўзяла абавязацельства...

— Пра абавязацельствы іншы раз,—у голасе Лінга нечаканыя металічныя ноткі,—чаму ў некаторых магазінах не заўсёды ёсць неабходныя тавары? Хутка людзі па запалкі будуць у Старыя Дарогі ездзіць.

— Мо на базу не завезлі? —няўпэўнена адказвае старшыня.

— Мо, ці не мо? Я вось днямі спецыяльна ездзіў на базу—усё ёсць. Далей. Пабываў я ў некаторых школьных буфетах—аднымі цукеркамі гандлююць. Хіба можна ў школе цукеркамі гандляваць? Яно ж, малое, цукерку ў рот, а потым дома яго пугай не прымусіш есці. Гэта пры цяперашняй школьнай нагрузцы ды на адных цукерках?

— Усё будзе зроблена, як след, —абяцае старшыня райспажыўсаюза.

— Сумняваюся, бо вельмі лёгка абяцаеце.—рэзюмуе Лінг.—Але праз месяц, на наступным пасяджэнні выканкома ўсё праверым. Падтрымліваеце мяне, таварышы? —звяртаецца ён да членаў выканкома.

— Поўнасцю.

50 год утварэння СССР

## У РУСКІХ І ЛІТОЎСКІХ СЯБРОЎ

**Набліжаецца вялікае свята народаў нашай Радзімы —50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І, паводле добрай традыцыі, народы ў гэтыя дні праяўляюць асаблівую цікавасць да поспехаў і дасягненняў сяброў і суседзяў, клічуць адзін аднаго ў госці.**

Пабылі ў гасцях у суседзяў і мы — штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» прадаставілі свае старонкі «Советская культура» і літоўская «Літаратура ір мянас».

«Советская культура» змясціла артыкул Э. Ялугіна «Верцялішкі — новае жыццё», рэцэнзію В. Нячай на тэлевізійны фільм пра Мінскі аўтазавод «Справа жыцця», інтэрв'ю з галоўным рэжысёрам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета заслужаным дзеячом мастацтваў БССР А. Дадзішкіліяні, нататкі М. Гарэцкай пра народны тэатр Мінскага трактарнага завода, праблемны артыкул Г. Коласа «Крытыка: суб'ектыўнасць і суб'ектывізм», інфармацыю Ул. Брыга «Паэтам народным» пра завяршэнне скульптурных комплексаў, прысвечаных Я. Купалу і Я. Коласу, размову І. Клімашэўскай з народным артыстам СССР Генадзем Цітовічам «Любоў мая, песня».

Беларускі нумар «Літаратуры ір мянас» адкрываецца рэпрадукцыяй карціны М. Савіцкага «Партызанская мадонна». Пра сучасны стан беларускай літаратуры расказаў Іван Шамякін. Наша паэзія прадстаўлена вершамі Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Веры Вярбы, Рыгора Барадуліна, Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Вярцінскага і Уладзіміра Паўлава ў перакладах Э. Матузявічуса, Й. Якштаса, Й. Стралкунаса; проза—апавяданнем Васіля Быкава «Эстафета» ў перакладзе В. Радайціса. Апублікаван артыкул Эўгеніуша Матузявічуса «Зноў у суседзяў» пра творчыя сустрэчы з нашымі літаратарамі і нататка пра выхад твораў Саламеі Нерыс у беларускіх перакладах, фотанарыс «Хатынь», а таксама інфармацыя А. Белавусава пра помнікі Я. Купалу і Я. Коласу.

Абодва выданні публікуюць гумар з «Вясёлай трасянкі» — у «Советской культуре» змешчана мікраапавяданне Рыгора Бохана, у «Літаратуры ір мянас» — гумарэскі Л. Прокшы, малюнкі А. Сапеткі і Д. Міхлеева.

Асабліва прыемна адзначыць, што абодва беларускія нумары нашых братніх выданняў выйшлі 26 лютага—у дзень саракагоддзя «ЛІМа». Шчырае дзякуй вам, дарагія сябры, за цёплыя, сардэчныя словы, за ўвагу!

вязаны яшчэ больш узмацніць кантроль за якасцю. У бліжэйшы час у кожным магазіне і на базах зацвердзім грамадскіх кантралёраў (акрамя штатных таваразнаўцаў), якія дапамогуць ажыццяўляць гэты кантроль. Што датычыць адказнасці за якасць, дык яна таксама прама кладзецца на прадаўца ці дырэктара магазіна. Скажу больш,— дырэктар магазіна, які заведама збывае няякасны тавар, караецца гэтак жа, як за крымінальнае злачынства.

А калі гаварыць аб правах пакупніка, дык яны ў яго самыя вялікія,— не купляць дрэнны тавар,— жартуе М. Назараў.

— Што і робіцца,— устаўляю я.— У магазінах залеж мужчынскіх дэмісезонных паліто айчынных фабрык. Пакупнік іх не бярэ, ён просіць куртку. Такая мода! Мусіць работнікі гандлю павінны былі ўлічыць тэндэнцыю моды. Вось мы і падышлі да пытання, якое таксама адлюстравана ў пастанове. **Палепшыць вывучэнне і задавальненне попыту насельніцтва на тавары.** Што робіцца ў гэтым напрамку?

— Вядома, што кан'юнктура мяняецца вельмі хутка. Улавіць гэтыя змяненні даволі цяжка. Тры гады таму гэтых самых мужчынскіх паліто не хапала, а сёння іх пакупнік не бярэ. Попыт — рэч тонкая. Часам у пагоні за новым мы забываемся на старыя, традыцыйныя тавары. Так, напрыклад, здарылася з мясарубкамі. У мінулыя гады попыт на іх знізіўся. У выніку мясарубкі перасталі выпускацца і сёння гаспадыні не маюць гэтага, няхай і бабульчынай, але неабходнай прылады. І гэта, безумоўна, наша віна. Як мы вывучаем попыт? Па-першае,— на штогадовых кірмашах, дзе гандлёвыя работнікі адбіраюць і заказваюць тыя тавары, на якія ёсць попыт. Вывучэннем гэтага пытання займаецца ў нас і філіял Усесаюзнага навукова - даследчага інстытута па вывучэнні кан'юнктуры і попыту. Пры кожным торгу ёсць работнікі, якія яго таксама вывучаюць. Але пакуль што ў нас не хапае кваліфікаваных спецыялістаў. І гэта, бадай, наша «ахілесава пята».

Гутарка заходзіць пра тое, што не хапае наогул звычайных прадаўцоў. У выніку, за прылаўкам, часам, стаяць людзі выпадковыя. Адсюль, нярэдка і нізкі культурны ўзровень абслугі пакупніка. Між тым, у пастанове ёсць і такія радкі: «...**узмацніць адказнасць гандлёвых работнікаў за даручаную справу, павысіць культуру абслугі.**

— Міхаіл Сямёнавіч, дазволю сабе спыніцца на такім парадоксе. Акрамя заработнай платы і прагрэсіўкі кожны прадавец атрымлівае дзесяць працэнтаў надбаўкі за культурную абслугу. Так сказаць, авансам. Чаму? Стаяць два прадаўцы. Адзін ветлівы, уважлівы, кемлівы. Другі — проста грубіян. Але абодва яны атрымліваюць аднолькавую надбаўку за «культурную абслугу».

— Не зусім так. Той прадавец, які атрымае заўвагу ад дырэкцыі ці пакупніка, гэтай надбаўкі пазбаўляецца.

— Але ж гэта толькі ў тым выпадку, калі пакупніку ўдасца ўзяць кнігу скаргаў. Вось, аказваецца, чаму прадаўцы так даражаць гэтай кнігай!

— На жаль,— гаворыць Міхаіл Сямёнавіч,— бывае і такое. Мы з гэтым рашуча змагаемся. А наогул неўзабаве слова прадавец будзе гучаць анахранізмам. 40 працэнтаў тавараў ужо сёння нашы пакупнікі набываюць без прадаўца. Гэты паказчык на многа большы, чым у сярэднім па краіне. Што дае новы метад? Калі ласка, продаж тавараў за апошні час павялічыўся на 17 працэнтаў. Вось такі яго эканамічны эфект. Не гаворачы ўжо, што гэты метад эканоміць час пакупніка.

— Але ж пры сістэме самаабслугі ўзнікаюць некаторыя маральныя праблемы. Я маю на ўвазе кантроль, пад які, як пад абстрэл, трапляе пакупнік у магазіне без прадаўца. Пакупніка нібы загадзя падазраюць ў несумленнасці.

— А чаму вас не абражае кантралёр, які зайшоў у тралейбус ці трамвай? Вы прызыклі да яго, а ў магазіне чамусьці ён выклікае пратэст. Думаю, што як і ва ўсякай новай справе, тут ёсць свае цяжкасці. З цягам часу яны знікнуць. Але неабходны самы строгі парадак. Пастаянны і для ўсіх. Кожны, хто ўваходзіць у магазін, што працуе па метадзе самаабслугі, незалежна ад таго, купіць ён ці не, павінен змяніць сваю сумку на кошык, які яму прапануюць.

Што нам сапраўды замінае пакуль што, дык гэта недахоп расфасаваных тавараў. Прадпрыемствы,што выпускаюць харчовыя тавары, як правіла, іх не фасуюць. Праўда, у пастанове гаворыцца, што да 1975 года больш палавіны прадпрыемстваў, якія выпускаюць прадукты, будуць іх фасаваць. Але гэтага мала. Таму мы будуем цэхі фасоўкі сваімі сіламі. Ужо ў гэтым квартале ў Мінску будзе запушчана фабрыка фасоўкі, якая разлічана на 25 тысяч тон у год. Акрамя таго, у 20-ці торгах рэспублікі ўстаноўлены фасовачныя аўтаматы. Так што і гэту праблему будзем паступова вырашаць. А ўрэшце, асноўная праблема, якую ставяць перад намі партыя і ўрад,— настойліва выхоўваць у працаўнікоў гандлю пачуццё высокай адказнасці за даручаную справу.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

шага перад намі з'яўлення,—а ўглыб, ва ўсведамленне ім складанасці навакольнага, большай складанасці, чым уяўлялася раней, ва ўсведамленне, што сапраўдным людзям яшчэ многа, ой як многа, трэба зрабіць, каб не стала ў чалавечых сэрцах здрады, шкурніцтва, прыстасавальніцтва, словам, той чорнай подласці, што ператварае людзей у нелюдзяў. Шкада, што інсцэніроўка не заглыбілася ў розпасць фарміравання характараў Сотнікава і Рыбака. Гэта скоўвае часам і акцёра, не дае магчымасці сказаць таго, што ён мог і павінен быў сказаць пра свайго героя...

І паводле знешняга малюнка ролі, і паводле таго, чым увогуле жыве, дыхае на сцэне гэты персанаж, мы пазнаём і Рыбака з аповесці ў сакавітым выкананні В. Барысава. Здаравяка, удачнік, малайцаваты зух (праўда, дзеля дэманстрацыі гэтай малайцаватасці акцёру зусім не абавязкова карыстацца вымаўленнем Грышкі Мелехава з герасімаўскай экранізацыі—«пасмотрым ишо» і да т. п.—Рыбак паходжаннем не з-пад Вёшанскай, а з-пад Гомеля), ён мог бы, паўтараю, прайсці сваё жыццё зусім інакш, мог бы, калі б удача аднойчы не здрадзіла, хватам, а то і героем-партызанам дачакацца лепшых часоў. Але прыйшло бязлітаснае выпрабаванне—і «спёкся» Рыбак, нічога не застаецца ад яго ранейшага. Выявілася, што ён, хто пагарджае хворымі і слабымі,—кажа, што на вайне, але відно, што не толькі на вайне,—слабейшы ад самых слабых. Слабейшы на галоўнае, што вызначае чалавечае аблічча...

**Да ўдач спектакля я б аднёс сцэны ў падвале, дзе проста на нашых вачах як бы спаўзае з Рыбака ранейшая зухаватасць і агаляецца ён у сваёй мізэрнасці. Рэжысёр і акцёр выяўляюць тут увесь шлях такіх, як Рыбак, па лесвіцы падзення. З прыступкі на прыступку. Ад нявінных, нават правільных нібыта разважанняў, што памерці справа няхітрая, цяжэй выкруціцца ад смерці, каб змагацца. Праз спалохана-жывёльнае—«Раніцай—што?!»—пасля рэплікі паліцая наконт таго, што цярпець пасаджаным у падвал засталося да раніцы. Аж да прыдушанага—«Я—згодны...» — калі гэтая раніца прыходзіць... Ганебны шлях!**

У спектаклі нямала вартых увагі акцёрскіх работ. Гэта Дзёмчыха ў выкананні Э. Міхайлавай—вобраз, які нібы сышоў са старонак быкаўскай аповесці, арганічны, пераканаўчы ў няпростай, але па-чалавечы зразумелай логіцы сваёй. Гэта стараста Качан—С. Бульчык падае яго нетаропкім і мудрым у прыняцці таго нялёгкага, што выпала яму на долю. Гэта жонка старасты ў выкананні А. Кашынай...

Пры ўсім тым, што ўдалося і што не ўдалося стваральнікам спектакля, у магілёўскім «Сотнікаве» адчуваеш нешта істотнае, характэрнае для светаўспрымання пісьменніка. А паколькі суровая праўда быкаўскай творчасці—амаль заўсёды прадмет вострых спрэчак і палемікі, то і вакол гэтага спектакля ў горадзе ідуць спрэчкі. Але калі спрэчкі выклікае з'ява прыкметная, то ўжо гэта—немалая заслуга тэатра.

**Ул. МЕХАЎ,**
**спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».**

# У ВЯНОК ПАЭТУ

Пасмяротная слава Максіма Багдановіча найвышэйшы свой разгон набірае на нашых вачах. Вядома, і да гэтага ён лічыўся класікам нашай літаратуры, імя якога стаяла поруч з імёнамі Купалы і Коласа, але разам з тым як бы зводдаль, не надта трывала прылучанае да тых двух. Багдановіч лічыўся паэтам трохі акадэмічным, трохі эстэцкім, трохі меланхалічным, трохі рацыяналістычным, а наогул — «рэччу ў сабе», цалкам не выяўленай для жывога ўжытку літаратуры.

І як усё перайначылася! Мы ўбачылі, што без Багдановіча нам шмат чаго не зразумець ні ва ўчарашнім, ні ў сённяшнім дні нашай не толькі літаратуры, але і культуры таксама. Неабходнасць, прадвызначанасць яго ўсведамляецца ўсё больш і больш, выяўляецца, што творчасць ягоная, можа, як нічыя іншая, мае працягненасць у наш час і яшчэ далей—у будучыню. І сёння нам ужо не боязна паставіць побач з яго іменем азначэнне «геній».

Ёсць грунтоўныя даследаванні пра Багдановіча, натхнёныя артыкулы, напісаны апавяданні, аповесці, п'есы.

— Некалькі год таму назад я глядзеў у нашым тэатры юнага гледача спектакль «Зорка Венера». І калі ў самых драматычных сітуацыях да падзей падключылася цудоўная музыка Яўгена Глебава, недзе ў глыбіні маёй душы пачынала варушыцца думка: які гэта каларытны матэрыял для оперы!..

Так успамінае Алесь Бачыла пра першы імпульс да сваёй працы над лібрэта оперы пра жыццё Багдановіча. Цяпер такую оперу мы ведаем. І вось новая сустрэча з аўтарам—гэты раз ён у якасці сцэнарыста дакументальнага фільма пра выдатнага паэта.

Скажам адразу: фільм хвалюе. Найперш, вядома, самім лёсам таленавітага юнака, загадкай ягонай творчасці, той загадкай, што акружае постаці Лермантава і Шэлі, Пецёфі і Сірано дэ Бержарака — людзей, каму было скупою мераю адпушчана зямнога жыцця і шчодра — бяссмерця. Уражвае клічам Радзімы, што пастаянна гучаў у душы паэта. Напамінкам пра трагічны лёс неўвасобленых нашых нацыянальных геніяў—Багрымаў, загубленых на салдацкай катарзе, Шэкспіраў, якія, паводле слоў Дастаеўскага, ездзяць у рамізніках, Рафаэляў, што ходзяць у кавалях, акцёраў, штоаруць зямлю...

Фільм рэалізуецца як расказ Адама Ягоравіча пра свайго сына, тут выкарыстаны фрагменты з вядомых «Матэрыялаў» А. Багдановіча да біяграфіі паэта. Супраць такога кампазіцыйнага вырашэння стужкі пярэчыць у прынцыпе цяжка. Расказ Адама Ягоравіча багаты на псіхалагічныя і бытавыя дэталі і адценні, неяк па-новаму чытаецца сёння ягоная спроба разабрацца ў памкненнях і думах сына, важнасць і значнасць якіх сам бацька тады недаацэньваў. Вядома, гэта разумее той, хто чытаў «Матэрыялы». У фільме шмат чаго з тых нюансаў згубілася — непазбежна, канечне, але і не пашкадаваць пра гэта нельга.

Дакументальны матэрыял пра паэта, якім карысталіся стваральнікі фільма (рэжысёр П. Аліфярэнка, аператар В. Купрыянаў), надзвычай скупы. Партрэты Багдановіча адзінкавыя. Тым больш вынаходлівасці трэба было выявіць аператару, каб наблізіць да нас, ва ўзаемадзеянні з тэкстам, з ускосным «выяўленчым радам» чалавечае аблічча паэта, умела праакцэнтаваць яго. Тут, на жаль, аператар, як кажуць, не заўсёды быў на вышыні. Партрэт Адама Ягоравіча неяк забівае сваёй «фактурнасцю» Багдановіча-сына. Як быццам дробязь, але ўсё ж прыкра.

У маленькім, усяго на дзве часткі фільме пра ўсё не расскажаш. Залішнія патрабаванні прад'яўляць было б грэх. Пра галоўнае—пра месца паэта ў духоўным жыцці свайго народа, пра яго заслугі перад славянскім светам, ідэі яднання якога ён так шчыра служыў, пра жаданне і дзейсныя турботы ўзняць літаратуру роднага народа да вышынь сусветных — у фільме сказана. Дзе проста названа словам, дзе даведзена логікай кінематаграфічнай мовы.

Фільм—каляровы. Гэта добра і гэта дрэнна. Дрэнна ў нашым канкрэтным выпадку. Колер не працуе на гэты фільм, можа, таму, што выкарыстаны няўмела, часам груба, алеграфічна. Асабліва гэта заўважаеш у пейзажах—статычных, падобных на даўнарэжымныя калядныя паштоўкі. А шкада! Пры скупасці дакументальнага матэрыялу пейзаж—крымскі і беларускі — мог бы саслужыць аўтарам фільма добрую службу. На жаль, не атрымалася.

Першы фільм пра Багдановіча створаны. Спадзяёмся, першы не будзе апошнім.

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ.**

# ДАВАЙЦЕ ВОЗЬМЕМ І КАЗКУ!..



Кадр з фільма «Беларуская казка».

У адной з перадач тэлебачання, прысвечанай мастацтву кіно, было зададзена пытанне: «Які фільм вы ўзялі б з сабою ў міжзорнае падарожжа, каб расказаць жыхарам іншых светаў пра жыццё зямлян?» Пытанне хоць і жартаўлівае, але не простае, адказаць на яго вельмі цяжка. Аднак адказаў, безумоўна, будуць сотні, будуць названы дзесяткі фільмаў з «залатога фонду» сусветнага кіно. Ручаюся—ніхто не назаве ніводнага кароткаметражнага фільма, з тых, якія ідуць на падоўжаных сеансах перад эпічнымі палотнамі, драмамі і меладрамамі. Ну, каму прыйдзе ў галаву браць з сабою такую, напрыклад, кароткаметражку, як «Беларуская казка»? Пра што яна расказвае, дакладней, што яна расказвае? Казку! Кароткую, на дзесяць хвілін, казку пра дзеда, і бабу, пра іхняга ўнучка, пра коніка не таго, што ў лузе сакоча, а таго, што калёсы вязе, пра ваўка, які хацеў унучка з'есці, ды сам лёг лапамі дагары...

І ўсё? Не, не ўсё.

Пакуль казка баецца, на экране справа робіцца; казку гэтую стварае на нашых вачах старая беларуская ўмеліца Вера Ільінічна Гаўрылюк, яна пляце яе з саломкі, з жытняга сцябла. Жыта—рэч звычайная. Спачатку ў полі красуе, потым яго жорны мелюць, потым яно хлебам робіцца, духмяным, румяным, крамяным, скарынка ў яго—і тая салодкая. А сцябло, якое колас у полі трымала, гойдала, як калыску, у якой дзіцяткі-зярняткі спяць, сцябло тое стаіць залатым сціртам у баку ад дарогі, і дожджык яго потым сячэ, і вецер. Часам і носіць яго вецер туды-сюды, і кароўка на яго ў хлеве кладзецца, і нават качка топча. Вядома, салома, што ў ёй незвычайнага?

Нічога незвычайнага. Гэтак жа, як у камені, гліне, у суровым палатне... Але вось камень бярэ Радэн, да палатна падыходзіць Рэмбрант—і нараджаецца мастацтва. І калі рукі народнай умеліцы бяруцца за саломку, таксама нараджаецца мастацтва. Народнае мастацтва. Яго чамусьці часта называюць самадзейным, хоць у яго ёсць і векавыя традыцыі прафесіяналізму, ёсць тое, што называецца школай. Вароты гэтай школы і ўводзяць нас у фільм «царскія вароты», зробленыя з саломкі ў васемнаццатым стагоддзі. З той самай саломкі, якую качкі топчуць: Кыш, качкі! Кыш! Зараз адбудзецца цуд!..

«Плёў павучок павуцінку, плёў, і сплялася казка...»

А, гэта, відаць, сама ўмеліца расказвае, расказвае словамі, а рукі яшчэ больш красамоўныя, паглядзіце, якія тыпажы з іх выходзяць!.. Ну, вось, хоць бы дзед—ці не сустракалі вы яго дзе на Брэстчыне? Сустракалі. І бабу сустракалі. А ўнучак—гэта ж вы самі. Помніце сябе басаногага, гарэзу гэткага? А воўк—хіба не той, што з дзяцінства вашага? І злосны, і дурань, і чымсьці мілы, нястрашны, як сама казка. Бо сапраўдная казка заўсёды добрая. Людская.

Цацкі? Так, саламяныя цацкі. Але і нешта большае, чым проста цацкі. Паўторым — мастацтва. Казачка, у якой жыве вечная праўда жыцця. Вялікая праўда чалавечай працы, мудрасць чалавечых рук.

На жаль, гэтае мастацтва—мастацтва саломкі — амаль знікла. Ці знікае. І сцэнарыст Вячаслаў Адамчык, і рэжысёр Адольф Канеўскі, і аператар Фелікс Кучар зрабілі добрую справу, калі стварылі ў творчым аб'яднанні «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» гэтую кароткаметражку. (Ах, як шкада, што рэжысёр дазволіў аператару пакінуць у кадры жывога, такога мілага коціка, які жмурыць вочы і круціць хвастом, — танная даніна ўцяпленню!).

Усяго дзесяць мінут ідзе карціна, а помніцца будзе доўга. Простая, як сама казка, драматургія фільма. Тэкст таго ж Вячаслава Адамчыка; мяккая, з ціхім роздумам работа рэжысёра; уважлівая, як разумнае чалавечае вока, камера аператара. І, нарэшце, надзвычай абаяльны персанаж фільма, сама народная ўмеліца з Брэстчыны. Не ведаю чаму (узнікненне асацыяцый з'ява складаная), але пасля прагляду фільма мне ўспомніліся радкі Аляксея Пысіна:

Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта...

А жытняе сцябло—тая ж саломка. Таму, думаецца, гэтую кароткаметражку можна было б паказаць жыхарам іншых светаў. На падоўжаным сеансе, вядома. Хай бы яны даведаліся і пра тое, што і як плятуць на зямлі з саломкі, з вечнага, як сам сусвет, жытняга сцябла. А калі без жартаў, дык хацелася б, каб фільм гэты ўбачыў шырокі глядач тут, у нашых зямных кінатэатрах. Хай сабе на тых жа падоўжаных сеансах.

**Валянцін ТАРАС.**

**най з'явы, што ўяўляла сабой беларускае партызанскае Супраціўленне, для паказу лёсу людзей на акупіраванай ворагам тэрыторыі аўтары фільма не маглі не выбраць кампазіцыі «мазаічнай», якая б дазваляла выявіць тагачасную рэчаіснасць у многіх яе разрэзах. Ім даводзілася літаральна спалучаць неспалучальнае. Мабыць, таму В. Нячай, напрыклад, здалося, што ў вобразе маці артыстка Ніна Ургант нібыта «іграе адзін толькі страх за сыноў». Можна пагадзіцца з крытыкам, што Ганна Міхайлаўна — не лепшая роля актрысы даімення таму, што ёй не ўдалося дасягнуць сапраўднага «першаадкрыцця ў матэрыяле». Аднак папракнуць яе ў «пераігрыванні» матчыных пачуццяў я б не адважыўся. Занепакоеная, трывожная ў дні вайны матчыная любоў да сыноў, з якой хіба можна што параўнаць — гэта бадай ці не адзін з асноўных ідэйных матываў рамана, і рэжысёр не мог яго ігнараваць. Наватвізна вобраза Ганны Міхайлаўны якраз у тым, што раманіст, можа, упершыню на такім спецыфічным матэрыяле з усёй псіхалагічнай пранікнёнасцю змог паказаць, як вялікае, у чымсьці ўсё яшчэ незразумелае для нас гэтымі сваімі таямніцамі матчына сэрца, што аж млее ў сваёй любві да дзяцей (і страху за іх бяспеку ў пекле небывалага ваеннага ўрагану!) знаходзіла ў сабе сілы для мужнасці, для барацьбы. Барацьбы небяспечнай, каварнай, невядомай, найцяжэйшай ад таго, што за кожны неасцярожны яе крок заложнікамі былі дзеці. Суседскі хлопец Віктар Пятрэня, што паспеў нагледзецца ў жудасныя вочы смерці ў канцлагеры як ніхто іншы разумее, якой мерай душэўнай мужнасці даецца гэты безабаронны матчын гераізм.**

Незабыўныя, на маю думку, і кадры жыцця насельніцтва пад акупацыяй. Папялішчы, пагарэльцы, счарнелыя ад гора твары людзей... У нас жа кожную другую вёску спасціг жудасны лёс Арадура і Лідзіцэ! Гэтыя спакутаваныя і ў той жа час асветленыя якойсьці дзіўнай чалавечнасцю твары мацярок, што туляцца на папялішчах, па абгарэлых склепах і клунях і кормяць партызанскую «армію» сваім такім бедным на харч сталом і мараць, каб пасля вайны толькі хоць усё ўжо было па-справядліваму, — такое не забываецца...

Асабліва западае на сэрца высокая і чыстая гуманістычная ідэйнасць кінафільма. У герояў яго надзвычай вялікая мера маральнай патрабавальнасці да сябе. І нават ва ўмовах гэтага д'ябальскага азвярэння, якогасьці таталізаванага знішчэння, што абрынуў на планету фашызм, яны застаюцца людзьмі духоўна ўзвышанымі, з той добрай ранейшай рысай сардэчнага альтруізму, што ўласціва і, відаць, лёсам наканавана нашаму чалавеку.

Гэтая глыбінная філасофія, што моцным падтэкстам праходзіць праз увесь фільм, атрымлівае сваё кульмінацыйнае завяршэнне ва ўзаемаадносінах Караннога і Пінчука.

Пінчуку не даюць ні на хвілю забыцца нечалавечыя зверствы фашыстаў у Бабруйскім канцлагеры, адкуль ён цудам выратаваўся, і родная вёска, спаленая карнікамі разам з людзьмі. Выбраўся толькі адзін вось гэты нямко, што ўсё сіліцца расказаць пра бяду... Нервы ў партызана не вытрымліваюць, сэрца яго не ведае літасці, ён імкнецца адказаць фашыстам тым жа, гатовы сарвацца на жорсткасць.

(Заканчэнне на 6—7 стар.).

# РУЧАЁМ ХАЧУ БРУІЦЦА...

Бура з ног мяне валіла,
Я ўставаў — кіпела кроў!
Палягла чужая сіла
Прад маёю і сяброў.

**Так гаворыць у адным са сваіх вершаў татарскі паэт Закі Нуры. Так мог сказаць чалавек, на долю якога выпалі суровыя выпрабаванні.**

**Сапраўды, Закі Нуры належыць да таго пакалення, перад якім «палягла чужая сіла». Юнак, які, скончыўшы лесатэхнікум, толькі год-другі пабыў гаспадаром зялёнага царства на Амуры і ў родным Паволжы, быў прызваны ў шэрагі Савецкай Арміі.**

**Вайну Закі Нуры сустрэў на заходнім рубяжы нашай Радзімы. Малады воін, артылерыст-наводчык, адбіваў першыя шалёныя атакі танкаў Гударыяна. Ён спазнаў горыч адступлення і страт. Але гэта не пахіснула ў ім веры ў перамогу. Воін і паэт, ён змагаўся зброяй кулі і слова.**

**На часова захопленай зямлі вораг не знаходзіў спакою ні днём, ні ўначы. Біць яго на фронце і з тылу—такі быў загад Радзімы. Закі Нуры трапіў у партызанскае злучэнне легендарнага Канстанціна Заслонава. На дапамогу мінам падрыўніка, а затым аўтамату разведчыка ў найбольш цяжкія моманты прыходзіла паэзія:**

Не палохаюць нас, у паходах бывалых,
Ні снягі, ні дажджы, ні туман.
Запалай жа касцёр на прывале,
Заспявай ля кастра, партызан!

**Пасля вызвалення Беларусі Закі Нуры пэўны час працаваў намеснікам старшыні гарвыканкома Оршы. Былы партызан, які змагаўся за выгнанне чужынцаў, не шкадаваў сіл і энергіі для аднаўлення разбуранага беларускага горада. Ён і шмат пісаў пра ратны і працоўны подзвіг нашых людзей.**

**Вярнуўшыся на радзіму, у Казань, Закі Нуры працаваў журналістам, цяпер ён—старшыня Саюза пісьменнікаў Татарыі. Паэт многа ездзіў па сваёй рэспубліцы, не мінаў таго, каб не пажыць сярод будаўнікоў Волгаградскай ГЭС ці нафтавікоў Ніжнекамскага нафтакамбіната. Ён пісаў нарысы, вершы, паэмы, штогод выдаючы новую кнігу. Ён, былы партызан-заслонавец, і ў мірны час у штодзённым паходзе. Пра гэта сам паэт гаворыць:**

Знаю я — маёй дарогай
Апаясана зямля.
Знаю — торных сцежак многа.
А нят орная — мая.

**У Беларусі выходзіць зборнік вершаў Закі Нуры. Над перакладамі яго твораў працавалі многія беларускія паэты.**
**Некаторыя з гэтых перакладаў прапануем чытачам «ЛІМа».**

**Іван КАЛЕСНІК.**

## Закі НУРЫ

●

Нібы след ручаёў,
На ілбе маім стынуць
маршчыны.
Голас мой пацішэў
На вятрах і завеі скразной.
Я пранёс праз гады
Ганаровую чыннасць мужчыны
Па нялёгкіх дарогах
Гарачай эпохі маёй.

Мне прыйшлося не раз
На ўкатаных шляхах
спатыкацца,
Верыць хціваму зману,
Парою ў трох соснах блукаць.
Мне прыйшлося не раз
За Расію з чужынцам змагацца
І найлепшых сяброў
У лясах беларускіх хаваць.
Не шукаў,
Дзе лягчэй.
І маніць я лічыў — недарэчы.
Ненатольны ў любві,
Супакою я ў працы не знаў.
Пад любую бяду
Падстаўляў свае кволыя плечы,
Крыўдаваў і злаваўся,
І ўсё ж такі моцна трымаў.
Не паслала жыццё мне
Ніводнае шчодрай удачы,
І капрызная слава
У гасцях у мяне не была.
Толькі песня мая —
Гэта, веру я, нешта ды
значыць —
Хоць не гучнай слыла,
Але поплеч з Радзімай ішла.

На свой лёс крыўдаваць
Я не маю ніякай прычыны.
Працаваць і любіць —
Я жыву дзеля мэты такой.
Мне да скону нясці
Ганаровую чыннасць мужчыны
Па нялёгкіх дарогах
Гарачай эпохі маёй.

Пераклад Івана Калесніка.

## РУЧАЁМ ХАЧУ БРУІЦЦА ЧЫСТЫМ

Край мой любы!
Я хацеў бы зліцца
З цішынёй прастораў лугавых.
Я хачу расою серабрыцца
На зялёным шоўку траў тваіх,

Плыць туманам
Над рачным разлівам,
На тваё палі не забываць.
Прыляцець улетку цёплым
лівенем,
А зімою мякка снег пасцаць.
Да бяроз хачу я дакранацца
Ветрам,
Каб мяне запомнілі ты.
Рэчышчам мне хочацца
застацца
І ўзнімацца берагам крутым.

Я жадаю птушкай галасістай
Пець твае мелодыі заўжды.
Ручаём хачу бруіцца чыстым,
Каб з яго хацелася вады.

Нібы з другам,
Я вяду бяседу
З кожным дубам,
З кожнаю вярбой...
Можа нават ад цябе паеду, —
Край мой любы!
Сэрцам я з табой.

Пераклад Юрася СВІРКІ.

## НОЧ

Я ў гэту ноч,
Бы ў сон,
Баюся верыць,
О памяць!
Ты ніяк не абмінеш!..
Навошта зноў
Ты расчыняеш дзверы
Туды, дзе вораг
Цэліцца ў мяне?
Ён цэліць хутка —
Гэта ён умее, —
Не першы раз
Ён сёння у баю.
Ён шкурай адчувае:
Не паспее,
Дык непазбежна
Я яго заб'ю!

Я ў гэту ноч,
Бы ў сон,
Баюся верыць...
З крывёй
Змяшалася ў палях раса.
Я поўз і поўз,
Пакуль высокі бераг
Не ўзнік
Як франтавая паласа.
Забраўся ў рэчку
Месяц пакупацца,
У лозах
Заліваўся салавей...
Адчуў я:
Да сваіх
Мне не дабрацца,
Ды і куды пайшлі яны —
Свае?
Туга мне рот сушыла
Незвычайна,
Са злосці,
Ці ў трызненні
На хаду
Я закрычаў
Працяжна і адчайна,
І рэха адказала мне:
— Іду-у-у!

Я помню
Скрып уключыны трывожны,
Жаночы голас:
— Пацярпі, салдат... —

Мяне люляла хваля
Асцярожна,
Нібыта маці
Шмат гадоў назад...

Прайшлі гады.
Але дагэтуль
Часта,
Калі
Бяда ў жыцці не абміне,
Знаёмы голас
Абяцаннем шчасця
На беразе далёкім
Чутны мне...

Пераклад Міколы АЎРАМЧЫКА.

## СКАРБНІЦА ДРУЖБЫ НАРОДНАЙ

... «Савецкі Саюз будзе стаяць жывым прыкладам перад народамі ўсіх краін...» Гэтыя словы Уладзіміра Ільіча Леніна — нібы эпіграф да таго, што экспануецца ў гэтым музеі. Больш за 15 стэндаў з фатаграфіямі, дакументамі, архіўнымі матэрыяламі сабралі настаўнікі і вучні 5-й школы горада Добруша. Тут малюнкі гербаў, сцягоў, карты і арнаменты ўсіх братніх рэспублік.

Збіралі экспанаты два гады. І сёння школьны музей — адзін з лепшых не толькі ў раёне, але і ў вобласці. Тут сабраны матэрыялы аб удзельніках рэвалюцыйнага руху, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, вызваліцелях Добруша ад нямецкіх захопнікаў, передавых людзях прамысловасці і сельскай гаспадаркі раёна. Можна спадзявацца, што ў недалёкім будучым школьны музей стане той базай, на якой будзе створаны краязнаўчы музей раёна.

У год юбілею ўтварэння СССР музей папаўняецца новымі экспанатамі — падарункамі пісьменнікаў, мастакоў, музеяў братніх рэспублік.

М. ГАТОЎКІН.

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне паэту Алегу Антонавічу Лойку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.

## Падзеі Факты Навіны

□ У Белазерскім палацы культуры адбыліся чарговыя заняткі літаратурнага факультэта народнага універсітэта культуры. Заняткі былі прысвечаны памяці беларускіх паэтаў і празаікаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У госці да энергетыкаў прыехалі беларускія паэты Анатоль Вярцінскі і Уладзімір Паўлаў. Яны расказалі пра жыццё і творчасць загінуўшых, прачыталі іх творы.

Ф. Калеснікові́ч.

□ Адбылося чарговае пасяджэнне літаб'яднання пры рэдакцыі абласной газеты «Гродзенская праўда». Перад прысутнымі выступіў Васіль Быкаў, які падзяліўся ўражаннямі аб рабоце пленумаў праўленняў Саюзаў пісьменнікаў СССР і БССР, прысвечаных пытанням літаратурна - мастацкай крытыкі. Пасля члены аб'яднання абмеркавалі вершы паэта-пачаткоўца, студэнта педагагічнага інстытута Сяргея Няўчэні.

М Мельнік.

□ Абласны дом мастацкай самадзейнасці і абласны дом народнай творчасці ў Магілёве правялі семінар па развучванні бальных танцаў. У рабоце семінара прыняло ўдзел больш як 50 чалавек — кіраўнікі і ўдзельнікі студый бальных танцаў пры заводскіх і фабрычных палацах і дамах культуры

У дні работы семінара яго ўдзельнікі наведалі рад культасветустаноў Магілёва, пазнаёміліся з практыкай арганізацыі і праводзення танцавальных маладзёжных вечароў.

У. Бушлякоў.

СПОЎНІЛАСЯ 70 гадоў з дня нараджэння Сымона Хурсіка, беларускага пісьменніка, аднаго з тых, хто пачынаў мастацкую творчасць у шэрагах літаратурна-грамадскай арганізацыі «Маладняк» (1923—1928 гг.). Сымон Хурсік — адзін з найбольш актыўных маладнякоўскіх аўтараў другой паловы 20-х гадоў, тыповы прадстаўнік гэтага літаратурнага аб'яднання моладзі.

Нарадзіўся ён 13 лютага 1902 года ў вёсцы Снусцік Пухавіцкага раёна на Міншчыне ў сям'і селяніна. У памяці захаваліся малюнкі «цёмнага, непрывётнага жыцця», ад чаго і дзяцінства ўяўляецца пісьменніку «халодным, суровым і нават вусцішным». Пачатак вучобы ў школе супаў з пачаткам першай імперыялістычнай вайны. Пазней вучыўся ў гімназіі ў Чэрвені, там жа закончыў тры курсы педагагічнага тэхнікума, а з 1923 года пераехаў вучыцца ў Мінскі педагагічны тэхнікум.

У тэхнікуме С. Хурсік трапіў у цікавае асяроддзе маладых паэтаў і пісьменнікаў. Вучыўся ён на адным курсе з А. Александровічам, А. Якімовічам, Я. Падабедам, на іншых курсах займаліся П. Глебка, М. Лужанін, П. Трус, З. Бандарына, Н. Вішнеўская і многія іншыя пісьменнікі-пачаткоўцы. Усё гэта натхніла і яго ўзяцца за пяро.

Першае апавяданне «Адам Залес» (1923), над якім малады аўтар доўга і старанна працаваў, было ўхвалена Міхасём Чаротам, прыхільна сустрэта Змітраком Бядулем, які рыхтаваў апавяданне да друку.

## ГОСЦІ МІНСКА



**На сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыліся два вечары старадаўніх рамансаў, якія спявала Дзіна Дзян. Фартэпіяннае суправаджэнне піяніста Міхаіла Грыгор'ева, партыю гітар выконвалі браты Сяргей і Аляксандр Панковы. На здымку — выступае Дзіна Дзян.**



**Упершыню наведаў Беларусь венгерскі скрыпач Ласла Котэ. Ён выканаў творы Карэлі, Баха, Бартака, Франка. Партыю фартэпіяна выконваў Ласла Алмашы. На фота — венгерскі скрыпач Ласла Котэ.**

Фота Ул. КРУКА.

# МАЙСТАР ВАКАЛЬНАЙ МУЗЫКІ

«Падлічана, што ў васемнаццаці канцэртных праграмах народнага хору, падрыхтаваных ім з дня заснавання калектыву, каля сарака розных твораў належыць Івану Кузняцову. Тут і героіка-патрыятычная, лірычная, жартоўныя песні, і музыка да некаторых танцавальных пастановак, і, нарэшце, цэлая кантата «Нёманскі край» на словы А. Русака».

Гэтую цытату я ўзяў з кніжкі Г. Загароднята «Іван Кузняцоў», выдадзенай нядаўна выдавецтвам «Беларусь» у серыі «Нашы кампазітары».

Сапраўды, каму ў Беларусі не вядомы такія песні Кузняцова, як «Шырокія палі стэпавыя», «Партыя—наша шчасце», «Жывая дума Ільіча», «Беларусь—наша маці», «Ходзяць песні над ракою»? Улюбёны жанр кампазітара таксама і кантатна-аратарыяльны, які дае мастаку шырокія магчымасці для стварэння цікавых музычных палотнаў. Таму не можа не парадаваць факт выхаду кнігі пра кампазітара.

Г. Загародні пабудаваў кнігу ў форме разгорнутага біяграфічнага нарыса, са старонак якога паўстае перад намі вобраз кампазітара-шукальніка. Гэтым яна выгадна адрозніваецца ад іншых кніжак такога плана, дзе часам вытворчыя, хай сабе і творчыя справы, засланяюць жывога чалавека.

Вельмі цікава, па-журналісцку ўсхвалявана расказвае аўтар пра дзіцячыя гады кампазітара, пра яго знаёмства з народнай песняй, пра бацькоў і настаўнікаў, якія падтрымалі яго на шляху да любімай прафесіі, пра арганізацыю ім аркестра народных інструментаў, пра першую спробу стварыць музыку. А далей быў фронт, цяжкае раненне, заняткі ў Ленінградскім музычным вучылішчы імя Рымскага-Корсакава, эвакуацыя з акружанага ворагам горада, праца, зноў вучоба— у Гомельскім музычным вучылішчы і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

У раздзеле «Добры дзень, зямля цалінная» Г. Загародні вельмі ўдала скарыстаў дзённік кампазітара, які той вёў у час сваёй творчай камандзіроўкі на цалінныя землі Казахстана. Тут асабліва ярка паўстае аблічча кампазітара—чалавека працавітага, няўрымслівага, які на цаліне не толькі збіраў матэрыял для творчасці, але і шмат дапамагаў мастацкай самадзейнасці.

Творчасць кампазітара Г. Загародні разглядае прафесійна і ў той жа час даступна і папулярна. Рэцэнзуючы той ці іншы твор, аўтар не забываецца расказаць, як узнікла яго задума, у якіх умовах ён ствараўся. Упэўнены, што музыказнаўчыя раздзелы кніжкі будуць чытацца аднолькава лёгка як музыкантамі-прафесіяналамі, так і аматарамі музыкі, якія не маюць спецыяльнай падрыхтоўкі.

Амаль ніхто з аўтараў кніг пра кампазітараў не пісаў пра іх сувязі з выканаўцамі. А між іншым, часта менавіта ад выканаўцаў залежыць поспех таго ці іншага музычнага твора. Таму нельга не адзначыць, што кніжка мае спецыяльны раздзел «У сяброўстве з выканаўцамі». У ім Г. Загародні расказвае пра творчыя сувязі І. Кузняцова з прафесійнымі музычнымі калектывамі, асобнымі выканаўцамі нашай рэспублікі, пра яго дапамогу мастацкай самадзейнасці, пра тое, як гэтыя сувязі дапамагаюць нараджэнню новых твораў.

На жаль, нельга не адзначыць пэўнай неахайнасці ў стылі, у выніку якой у кнізе трапляюцца сказы накшталт «...вечарамі шмат з ім рэпеціраваў у дзве рукі» (тут размова ідзе напэўна аб ігры дуэтам).

Увогуле кніжка Г. Загародняга пакідае самае лепшае ўражанне. Добра зрабіла выдавецтва «Беларусь», што выдала яе вялікім тыражом.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ,**
заслужаны дзеяч культуры БССР.

# ПАВЕЯЛА ЦЯПЛОМ ЗЯМЛІ...

Васіль Хомчанка па-ранейшаму верны сваёй тэме — тэме мужнасці і гераізму савецкага чалавека, яго маральнай адказнасці ў складаныя моманты жыцця на вайне і ў мірны час. Пра гэта — і новы зборнік яго апавяданняў «Цёплая зямля». Мінулае і цяперашняе непарыўна звязаны ў кожным апавяданні, і амаль над кожным гарыць зарыва мінулых грозных бітваў — толькі два з шаснаццаці не датычаць тэмы вайны

У адным з гэтых апавяданняў — «Васіліна» — гаворка ідзе аб месцы і абавязку савецкага чалавека ў барацьбе не з абстрактным злом, а з канкрэтным, у дадзеным выпадку — з белагвардзейскай контррэвалюцыяй. Узорам вырашэння маральнага канфлікту паміж пачуццём спагады да асобнага чалавека і абавязкам перад народам пісьменнік бярэ учынкі Уладзіміра Ільіча Леніна, Дзяржынскага, работнікаў ЧК. У іх справядлівым судзе ён бачыць праяўленне вышэйшай гуманнасці.

У нечым падобны канфлікт і другога апавядання—«Пратэст». Тут барацьба адбываецца ў душы старшыні трыбунала, барацьба паміж сэнсам і літарай закона, за і супраць расстрэлу дэзерціра Яфімава. Так, фармальна ён дэзерцір, які адлучыўся ў палявых умовах самавольна на тры дні. Але ён жа і храбры, вынослівы, стойкі салдат. Так, жартаўнік Яфімаў — шалапут і шэльма, але ён жа і чалавек, які зведаў цяжкае. бадзячае дзяцінства, уцёк ад бацькі-п'яніцы да зладзеяў, захаваўшы, аднак, жывую добрую душу і сумленнасць. Ён па сваёй дураслівасці не разумее нават, што над яго галавой навісла суровая кара. «Вы мяне, грамадзяне суддзі, не судзіце, адпусціце ў роту, а то ў нашым узводзе салдат не хапае. А я вас не падвяду», — спакойна запэўнівае ён трыбунал. Капітан юстыцыі Пятроў — не ліберал, як яго абвінавачвае старшыня трыбунала. Гэта чалавечны і разумны суддзя, ён прысуджае Яфімава да ўмоўнай меры спагнання, ведаючы, што яго, Пятрова, чакаюць за гэта непрыемнасці па службе. Салдат Яфімаў амаль адразу ж пасля суда здзяйсняе подзвіг, знаходзіць пакутлівую смерць у баі. Так жыццё само выносіць апошні прысуд і абвінавачанаму і яго суддзям, прысуд у славу чалавечнасці, супраць фармальнай правільнасці.

Любоў да жыцця з'яўляецца адной з «вечных» тэм літаратуры, якая знайшла трактоўку і ўвасабленне ў мностве твораў, многія з якіх сталі класічнымі і хрэстаматыйнымі. Савецкія пісьменнікі далі сваё тлумачэнне яе; яны ўславілі не проста любоў да жыцця наогул, а любоў да жыцця, напоўненага глыбокім грамадска-карысным зместам. Гэтай тэме прысвечана і адно з лепшых апавяданняў зборніка, назва якога справядліва дала назву ўсёй кніжцы — «Цёплая зямля». Гэта драматычны эпізод з жыцця і працы сапёраў, людзей, якія ачышчаюць зямлю ад прытоенай смерці. Аб маральных якасцях такіх людзей сведчыць сама іх работа, якая з'яўляецца штодзённым, штогадзінным подзвігам у імя людзей. Такі лейтэнант Васілец. Чорную, цяжкую, будную работу — выкапаць іржавую авіябомбу, перавезці яе ў пустыннае месца — Васілец і яго памочнікі выконваюць спакойна і звычна. Але вось у апошні момант, калі бомба павінна ўзарвацца, проста на яго імчацца конна вясковыя хлапчукі, якія гуляюць у будзёнаўцаў. «Васілец ірвануўся да бомбы. Бег наперадзе коней. Тупат іх «біў» па галаве. Спіной адчуваў цёплае конскае дыханне. Дзесяць, пяць, тры крокі да бомбы. Зеленкаваты дымок падабраўся ўжо амаль да запала. Васілец паспеў яшчэ ступіць адзін крок, паспеў схапіцца за шнур... Дэтанатар шчоўкнуў у паветры...»

Радасць жыцця і любоў да жыцця вобразна і лаканічна перадаецца дзвюма —трыма кароткімі фразамі ў канцы апавядання. Лейтэнант Васілец, сеўшы на траву, праводзіць вачыма выратаваных дзяцей і адчувае ўсёй істотай жывую, родную цеплыню нагрэтай зямлі. Кароткае апавяданне нясе вялікі эмацыянальны і маральны зарад.

Дарэчы, і іншыя найбольш удалыя апавяданні невялікія па памеры («Ладкі-ладусі», «Падкова», «Інтэрнацыянал», «Пратэст»). Іх сціпласць, паўната думкі, яркасць вобразаў гаворыць аб тым, што В. Хомчанка ўсё больш і больш адточвае сваё майстэрства навеліста, імкнучыся на невялікай плошчы намаляваць многае, зрабіць апавяданне напружаным і займальным.

Самае кароткае апавяданне —«Інтэрнацыянал» Змест яго такі. На двары аўстрыйскага гарадка ляжаць музычныя інструменты. Двое музыкантаў, толькі-толькі вызваленыя з гітлераўскага лагера, спрабуюць іграць «Інтэрнацыянал», як некалі ў рабочым клубе. Для поўнага аркестра не хапае музыкантаў: хто памёр, хто забіты ці павешаны. Але паступова інструменты разбіраюць італьянцы, румыны, немцы. Застаецца толькі барабан. Яго нясмела бярэ хлапчук, ціхенька пастуквае... Музыка мацнее. Гімн вызвалення ўладна і ўрачыста плыве над зямлёй.

У зборніку, аднак, не ўсё раўнацэнна. Няўдачы спасцігаюць В. Хомчанку там, дзе ён бярэ для сюжэта факты малазначныя або ўжо часта выкарыстаныя і не раскрывае ў іх нічога новага. Напрыклад, расчароўваюць уяўнай глыбінёй апавяданне «Ракі» і «Тры гадзіны звальнення». Павярхоўнае адлюстраванне пачуццяў у апавяданні «Лішнія рэйсы». Засмучае «эпічны» спакой, падобны на раўнадушнасць, з якім расказана аб трагічным лёсе жанчыны ў апавяданні «Хата пры дарозе».

Затое пасля гэтага вялага апавядання раптам з захапленнем акунаешся ў вадаварот падзей дэтэктыўнага апавядання «Палова сутак». Што ж, трэба пажадаць В. Хомчанку поспеху і ў гэтым жанры, якому, як і ўсякаму іншаму, патрэбны глыбіня і дакладнасць ідэй і характараў, цікавыя тэмы і майстэрскае выкарыстанне мастацкай задумы.

**М. СТАЛЯРОЎ.**

В. Хомчанка. «Цёплая зямля». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1971.

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**Д. Бічэль-Загнетава. Рыжая палянка.** Паэма. Мастак Н. Шчасная. 1971 г. 20 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 19 кап.

**М. Гроднеў. Заручыны.** Аповесць у апавяданнях. Мастак С. Кухараў. 1972 г. 256 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 36 кап.

**Ул. Ляпёшкін. Званкі-званочкі.** Мастак М. Карпенка. 1972 г. 32 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 19 кап.

**П. Макаль. Адчыніце, казляняткі!** Вершаваная казка ў 2-х частках. Малюнкі Ул. Пашчасцева. 1972 г. 56 стар. Тыраж 20 000 экз. Цана 15 кап.

**Ул. Мехаў. Слухаецца справа аб замаху...** Дакументальныя нарысы. Мастак Г. Скрыпнічэнка. 1972 г 152 стар. Тыраж 10 000 экз. Цана 33 кап.

**Я. Сіпакоў. З вясны ў лета.** Бібліятэка беларускай паэзіі. Афармленне В. Юрчанкі. 1972 г. 168 стар. Тыраж 3 000 экз. Цана 56 кап.

**А. Талстой. Залаты ключык або прыгоды Бураціна.** Пераклад А. Бачылы. Малюнкі В. Шаранговіча. 1971 г. 112 стар. Тыраж 50 000 экз. Цана 65 кап.

**М. Танк. Ключ жураўліны.** Лірыка. Мастакі Ул. і М. Басалыгі. 1972 г. 496 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 2 руб. 08 кап.

**В. Шымук. Світанне.** Вершы. Мастак М. Лазавой. 1972 г. 96 стар. Тыраж 3 000 экз. Цана 32 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА «ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА»**

**А. Дзмітрук. Марксізм супраць апартунізму.** На рускай мове. Вокладка Г. Малышава. 1971 г. 160 стар. Тыраж 1 000 экз. Цана 18 кап.

**С. Карабан. Нарысы гісторыі беларускай эстэтычнай думкі і літаратурнай крытыкі.** 1971 г. 200 стар. Тыраж 1 000 экз. Цана 1 руб. 09 кап.

**Л. Падгайскі. Словазлучэнне ў беларускай мове.** 1972 г. 192 стар. Тыраж 1 000 экз. Цана 38 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА БДУ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА**

**М. Булахаў. Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы.** Мастак Г. Крычэўскі. 1971 г. 296 стар. Тыраж 1 500 экз. Цана 1 руб. 66 кап.

**Н. Галаўко. Літаратурна-эстэтычныя погляды паэтаў «Іскры».** На рускай мове. 1972 г. 144 стар. Тыраж 2 000 экз. Цана 10 кап.

**В. Рагойша. Пераклаў Якуб Колас...** Вокладка І. Андрыянава. 1972 г. 112 стар. Тыраж 1 800 экз. Цана 66 кап.

ны план для камандавання Заходняга фронту, непасрэдна кіраваць аперацыяй па разгроме бабруйскай групоўкі ворага. Безумоўна, Арджанікідзе праводзіў у арміі вялікую работу, але што ж, дазвольце запытаць у аўтара, рабілі камандуючыя і начальнікі штаба фронту і арміі, камандзіры дывізій? Няўжо яны не маглі распрацаваць плана разгрому групоўкі ворага ці кіраваць выкананнем аперацыі? Безумоўна, гэта не так.

Пасля вызвалення Мінска ад белапалякаў (11 ліпеня 1920 года) у горад прыбылі члены губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Быў наладжаны мітынг на Саборнай плошчы. Адзін з герояў рамана—Сцяпан Галуза — выступае на мітынгу і кажа: «...за вызваленне Мінска аддалі сваё жыццё многія чырвонаармейцы, сярод іх Анс Эрнеставіч Даўман — член Рэўваенсавета 16-й арміі і Іосіф Майсеевіч Флакс — начальнік Палітаддзела 8-й дывізіі». Пахаваў іх аўтар заўчасна, у ліпені 1920 года яны яшчэ былі жывыя і змагаліся за вызваленне Беларусі, загінулі пазней і не за вызваленне Мінска (хоць і пахаваны ў Мінску ў парку імя М. Горкага). Камандзір 10-й стралковай дывізіі А. Даўман загінуў у баях за вызваленне Брэста 2 жніўня 1920 года і быў пасмяротна ўзнагароджан 2 ордэнамі Чырвонага Сцяга, а Флакс забіты 4 жніўня 1920 года ў мястэчку Янаў, што паўночней Беластока.

У маі-чэрвені 1920 года на працягу 6 тыдняў часова выконваў абавязкі начальніка палітаддзела Заходняга фронту сакратар Маскоўскага камітэта РКП(б) А. Ф. Мяснікоў. Гэта было звязана з тым, што начальнік палітаддзела К. І. Шутко цяжка захварэў і загадам Рэўваенсавета Рэспублікі быў адпраўлен на лячэнне і адпачынак. Вярнуўшыся з адпачынку, Шутко з 3 ліпеня зноў узначаліў палітаддзел фронту, а Мяснікоў вярнуўся ў Маскву і прыступіў да выканання сваіх прамых абавязкаў. Аўтару рамана чамусьці не спадабаўся стары бальшавік Шутко і ён на яго месца пасадзіў Мяснікова да канца польска-савецкай вайны. І вось, сам таго не чакаючы, Мяснікоў удзельнічае ў мітынгу на Саборнай плошчы ў Мінску пасля яго вызвалення, рэдагуе тэкст Дэкларацыі аб паўторным абвяшчэнні незалежнасці БССР, прымае парад часцей Чырвонай Арміі ў Мінску, з ім ужо ў Смаленску (гэта пасля адступлення з Віслы) вядзе гутарку як з начальнікам Палітупраўлення фронту адзін з герояў рамана Саўка Касач, з ім там жа раяцца М. М. Тухачэўскі і І. С. Уншліхт. Але ўсіх гэтых падзей з удзелам Мяснікова не было і не магло быць. Ён працаваў у гэты час у Маскве і паводле загаду РВС Рэспублікі наладжваў працу Наркамата шляхоў зносін, каб як мага хутчэй і своечасова перакінуць з Усходняга фронту на Заходні падмацаванні, боепрыпасы і інш.

Незразумела, як можна было правесці агляд часцей Чырвонай Арміі Заходняга фронту ў Мінску. А хто ж вёў праследаванне праціўніка? Мусіць, гэта быў парад часцей мінскага гарнізона ў гонар вызвалення сталіцы ад белапалякаў. Я. А. Адамовіч не мог быць у цывільнай вопратцы на гэтым парадзе, бо ён знаходзіўся на вайсковай службе — быў мінскім губернскім ваенным камісарам.

Ёсць і іншыя гістарычныя недакладнасці, у якія аўтар рамана прапануе паверыць. Але навошта гэта? Вядома, гэта не навуковы трактат, а мастацкі твор, гістарычны раман. Праца над такім творам патрабуе ад аўтара стараннага і добрасумленнага даследавання гістарычнага матэрыялу. Інакш такі твор у пазнавальных адносінах прынясе шкоду чытачам.

**М. КАМІНСКІ,**
старшы навуковы рэдактар БелСЭ.

— ІВАН ІГНАТАВІЧ заняты, — жаночы голас такі ж няўмольны, як і прыгожы.

— А вы скажыце яму, што звоніць...

— Ды не магу я, таварыш. Разумееце?

— ...што звоніць Баранчук, яго былы школьны настаўнік.

У тэлефоннай трубцы затрашчала. Баранчук прыгладзіў рэдкія сівыя валасы.

— Трацця слухае,—загучэў густы басок.

— Добры дзень, Іван Ігнатавіч!.. Баранчук звоніць. Так, Фёдар Кірылавіч. Не забылі?.. Іван Ігнатавіч, у нашай школе ў гэтую суботу—традыцыйны вечар сустрэчы школьнікаў з былымі выпускнікамі. Ад імя ўсяго калектыву, і ад сябе асабіста запрашаю вас, Іван Ігнатавіч. Спецыяльна ж рыхтуемся, хе-хе... Дарогі няма, няма.. Я да шашы пад'еду на санях, Іван Ігнатавіч. Так... Ясна, Іван Ігнатавіч. Да сустрэчы, Іван Ігнатавіч! Чакаем!..

У суботу Баранчук запрог школьнага каня, кінуў у сані свежанькага сена, разраўняў яго, пасядзеў, ці не мулка, заслаў яго коўдрай і паехаў сустракаць свайго былога вучня Івана Трацьцяка, а цяпер вядомага ледзь не ўсім у вобласці Івана Ігнатавіча.

Дарога ішла па полі паўз раку, а потым праз дуброву, засыпаную снегам. Старадаўнія дубы пераплялі голле над дарогай, і таму яна нагадвала тунель, у якім было вельмі ціха—чулася, як пасапвае конь, як з прыглушаным піскам пад рыхлым снегам, што сыпаў без супынку апошні тыдзень, слізгаюць палазы па гарбатым карэнні.

Баранчук ехаў і думаў пра сябе з той бязлітаснай шчырасцю, на якую толькі здольны чалавек у глухім лесе без адзінай сведкі побач. Ён думаў пра сваю педагагічную дзейнасць, якая ў яго вачах цяпер нічога не была вартая, ставіў пад сумненне свой шматгадовы вопыт настаўніка, сваё ўменне добра разбірацца ў людзях. Колькім вучням ён аўтарытэтна абяцаў вялікую будучыню, а цяпер тых, адзначаных яго ўвагай, і нідзе не чуваць, параскідала жыццё, пагубляла... А Іван Трацьцяк—цяпер Іван Ігнатавіч, да якога нават дазваніцца не так лёгка. Відаць, ён, Баранчук, ніколі не ўмеў разбірацца ў людзях, а бачыў іх такімі, якімі хацеў бачыць, ці такімі, якімі яны паказвалі сябе.

Баранчук напружана ўспамінае, і ніяк не можа ўспомніць, не можа ўявіць, якім жа быў Іван Трацьцяк школьнікам. Калі вучыўся, як вучыўся, ён цяпер ведае дакладна: паглядзеў у школьным архіве. А вось якім быў гэты Іван Трацьцяк, чым асаблівым вызначаўся?.. Можа быў звычайны вучань, якіх нямала прайшло праз яго рукі, не пакінуўшы пра сябе нічога ў памяці. Не, цяперашні Іван Ігнатавіч не мог быць звычайным. Не мог... А ці не ён гэта некалі выбіў мячом акно ў настаўніцкай. Мяч, разбіўшы шкло, ударыў па галаве выкладчыцу нямецкай мовы, і тая потым крычала, што гэта знарок, што яе хацелі аглушыць, бо вучні не хочуць вучыць нямецкую мову. І сапраўды, адразу пасля вайны многія дзеці не хацелі вучыць нямецкую мову. Тады ўвесь клас ці шосты, ці сёмы, цяпер ніяк і не ўспомніць, стаяў цэлы ўрок. Потым выйшаў, здаецца, Іван Трацьцяк, і сказаў, што гэта ён выпадкова ўдарыў мячом у акно. Пасля гаварылі, што і зусім не ён ударыў, ды Баранчуку было ўсё роўна: вінаваты быў наказаны своечасова... А пасля дзевятага класа Іван Трацьцяк два гады не хадзіў у школу. Рабіў у калгасе. Цяпер на вёсцы расказваюць, што ён рабіў тады ледзь не брыгадзірам, а хто сцвярджае, што толькі ўчотчыкам... Баранчук жа нічога не ведаў, нават не ведаў, чаму Трацьцяк кінуў школу—іх, пераросткаў, нямала кідала вучыцца. Пабудаваўшы хату—гэта цяпер расказваюць, што ён кідаў школу, каб пабудаваць маці хату—ён пачаў хадзіць у дзесяты клас. Скончыў яго на тройкі. Паехаў паступаць у педагагічны інстытут у Мазыр. А куды яшчэ ён мог паехаць з такім атэстатам?.. А нешта ж было ў характары Івана Трацьцяка такое, што дазволіла яму стаць тым, кім ён быў цяпер. І як здарылася, што ён, Баранчук, не звярнуў ніякай увагі на яго тады? Змагаўся за паспяховасць, за дысцыпліну, і не надта думаў, кім могуць стаць яго вучні ў будучым... Так вось і здарылася з Іванам Трацьцяком. І ні ён, Баранчук, ні іншыя настаўнікі ніколі не цікавіліся, як склалася жыццё ў гэтага Трацьцяка. І толькі даведаліся пра яго з газетнай справаздачы. Спачатку дык і не паверылі, а потым здзіўляліся, ды ахалі. Здзіўляўся і ахаў і ён, Баранчук, ссівелы педагог... І вось ён цяпер едзе сустракаць свайго былога вучня і хвалюецца, ці прыедзе той...

Ля шашы Баранчук развярнуў сані, кінуў сена каню і пачаў з нецярпеннем углядацца туды, дзе шаша, узляцеўшы на ўзгорак, знікала з вачэй. Не паспеў Баранчук раскурыць і папяросу, як падкацілася чорная «Волга». Спынілася. З яе выйшаў шырокі і высокі мужчына, і легкавушка побач з ім неяк адразу памізарнела, здавалася, што яна і не магла ўмясціць такога чалавека. Іван Ігнатавіч загадаў шафёру пад'ехаць заўтра, папрасіў прабачэння ў Баранчука, што прымусіў крыху пачакаць, падняў каракулевы каўнер паліто, скіраваў да саней.

Дамоў конь бег шпарка, не трэба было і падганяць. Пацяжэлыя сані гойдала меней, толькі зрэдку заносіла там, дзе пад рыхлым снегам былі выбоіны, стукала іх аб дрэва, кідала ў другі бок. І тады Іван Ігнатавіч, які стаяў на каленях, хапаўся за плечы Баранчука, каб не зваліцца.

— Які лес!—захапляўся госць, нібы ўпершыню бачыў дуброву.—Я, ведаеце, многа дзе пабыў, але такога лесу не бачыў. Шкада, што рэдка прыходзіцца бываць дома... А як рыбка ў возеры? Калісь там надрэнна браліся акуні.

Непрыкметна мінуліся лес, поле. Дарога скацілася з высокага берагу, лягла на раку, крута ўзляцела на другі бераг. Праехалі паўз хату бакеншчыка, што адна стаяла на беразе. За хатай быў доўгі ставок, які тут усе называлі возерам. На тым беразе гэтага возера і раскінулася вёска, паглядваючы на свет з-пад заснежаных стрэх.

— Можа ў школу заедзем, Іван Ігнатавіч?—спытаў Баранчук.

— Потым, потым, Фёдар Кірылавіч,—адмовіўся Трацьцяк.—Забягу да сваёй цёткі, ды можа яшчэ паспею хаця трохі пасядзець на возеры з вудай...

Баранчук распрог каня, зайшоў дамоў пераапрануцца. Вячэраць не стаў. Хуценька прагледзеў газеты, прынёс жонцы вады з калодзежа, унёс дроў і, калі пачало змяркацца, пайшоў у школу.

Школьны калідор быў заліты электрычным святлом, а таму здаваўся яшчэ больш вузкім і цесным. Пакарабачаная столь уся ў трэшчынах, сцены месцамі павыпіралі і знізу пабраліся рудымі плямамі. Масляная фарба на сценах пузырылася і абсыпалася. Падлога таксама была няроўнай, у выбоінах: відаць, пападгнівалі стаякі, ды і сцены садзіліся. І як ні раманта валі школу, яна праз месяц станавілася такой жа, як і да рамонту: стары струхнелы будынак. І ў урачыстыя моманты, асабліва, калі прыязджалі госці, Баранчук саромеўся свае школы. І сёння, адказваючы кіўком галавы на прывітанні вучняў і былых выпускнікоў, паскрыпваючы масніцамі, ён хуценька прайшоў у настаўніцкую, застаўленую цесна сталамі, заваленымі хімічнымі і фізічнымі прыборамі, для якіх не было месца ў класных пакоях. Сеў за свой дырэктарскі стол. За доўгія гады работы ён навучыўся здагадвацца па гуках, што рабілася ў школе. Чуюцца глухія ўдары дзвярэй у калідоры—заходзяць свае: свае зачыняюць дзверы асцярожна. Дырэктар да гэтага прывучыў усіх. Не прывучыў аднаго толькі завуча. Завуч хадзіў з кульбай, кульгаў, можа таму ён і саромеўся яму зрабіць заўвагу. Вось моцна грукнулі дзверы, што аж задзінкалі шкляныя прабіркі на стале. А раптам гэта з'явіўся сам Іван Ігнатавіч?

Не, па калідору кульгаў Платон Ціханавіч, завуч. У адной руцэ кульба, у другой—шапка, якой ён размахваў, нібы мух адганяў. Галава ў Платона Ціханавіча сівая, хаця твар і малады.

— Сустрэлі?—яшчэ здалёк спытаў завуч.

— Сустрэў,—незадаволена адказаў Баранчук.

— А дзе ж ён?

— Яшчэ не прыходзіў,—і ўжо ў настаўніцкай растлумачыў, — захацелася, бачыце, яму з вудай на возеры пасядзець...

— Э-э, трэба ж было прадугледзець такую сітуацыю. Падрыхтавацца і пайсці з ім...

— Я падумаў, ды позна. У мяне ж тых вудаў ніколі не было.

— Так... А ведаеце, што калі нам удасца дамовіцца з Іванам Ігнатавічам, каб школу будавалі ў гэтым годзе па зацверджаным праекце, то мы вырашым праблему на якіх пяць год. Праз пяць-шэсць год нам зноў будзе цесна... Я падлічыў. Дык калі ўжо прасіць, дык прасіць, каб заадно і праект змянілі. Каб пабудавалі па такім праекце, як у райцэнтры. Тады можна было б і пачакаць яшчэ гэтыя два гады, хай будуюць, як і запланавалі. Затое потым для нашай вёскі праблема са школай будзе вырашана вельмі на доўга. Лічы, што назаўсёды.

— А гэта думка,—згадзіўся Баранчук.—Тады б у нас была сапраўдная школа. Толькі так, дарагі мой Платон Ціханавіч. Самім гаворку пра школу не распачынаць, каб нічога не западозрыў. А то можа і пакрыўдзіцца. Ён—чалавек разумны, сам усё ўбачыць, і не можа быць, каб не спытаў, не пацікавіўся...

— Ды тут толькі сляпы нічога не ўбачыць. Не школа, а хлеў. Чаго яго так доўга няма?—хваляваўся дырэктар. Не сядзіць жа на возеры: цёмна...

— А можа пачнем?—прапанаваў Платон Ціханавіч.—Што яму наша гаворка трэба? Яму недзе свае сходы абрыдлі. Яму цікавей будзе наша неафіцыйная частка. А тым, што мы яго не чакалі, мы толькі падкрэслім, што ён застаўся для нас у першую чаргу нашым выпускніком.

— У цябе геніяльная галава, Платон Ціханавіч,—пагадзіўся Баранчук.

Цесна сядзелі размажнелыя госці за школьнымі партамі ў самым вялікім пакоі, у якім быў і піянерскі пакой, і школьны музей, а ўзімку дык і спартыўная зала. Баранчук сваю прывітальную прамову пачынаў з традыцыйнага жарту, які заўсёды гучаў сумна, што каб убачыць, як выраслі іх былыя выхаванцы, і каб яны гэта самі адчулі, трэба іх усадзіць за школьныя парты.

І цяпер ён так сказаў...

Леанід
ГАЎРЫЛКІН





АПАВЯДАННЕ

# ЗІМОВЫМ ДНЁМ

Трацьцяк прыйшоў, калі выступленні школьнікаў і гасцей закончыліся. У яго была вясёлая добразычлівая ўсмешка, расчырванелы на марозе твар.

— Вінаваты, сто разоў вінаваты,— яшчэ з парога загаварыў ён.—Акуні ніяк не адпускалі.

І ўсе раптам убачылі не Івана Ігнатавіча, а таго даўняга Івана Трацьцяка, які пасля вялікага перапынку ўбягаў у клас і шчаслівы крычаў, што яны абыгралі ў валейбол дзевяцікласнікаў.

Івану Ігнатавічу адразу ж далі слова. Спачатку ён стаяў за сталом разгублены, нават нейкі бездапаможны, нібы вучань, які не ведаў урока. Але вось ён, цяжка паморшчыўся абвёў усіх прыжмуранымі вачыма,—і ўжо не было заядлага валейбаліста-разакі, а быў чалавек, які не мае права гаварыць абы што, які прывык адказваць за кожнае слова... Гаварыў ён мала. Сказаў пра чуласць, пра любоў да працы, параіў будучым выпускнікам не баяцца цяжкасцей, а потым яшчэ раз папрасіў прабачэння, што не падрыхтаваўся да выступлення, а таму можа крыху блытана гаварыў.

Баранчук падзякваў Івану Ігнатавічу за змястоўную і карысную прамову, аб'явіў, што на гэтым вечар сустрэчы заканчваецца, што танцы для школьнікаў пераносяцца на заўтра. Вучні разышліся, нямала здзіўленыя такім нечаканым фіналам. Госці, як больш вопытныя ў жыцці людзі, пра нешта здагадваліся, красамоўна перамігваючыся. Былі і скептыкі, якія лічылі, што адмена танцаў яшчэ нічога не азначае, але і скептыкі мусілі замаўчаць, калі завуч адамкнуў дзверы ў суседнім класе, і адтуль тыхнула цыбуляй, кіслай капустай і смажаным мясам.

І хаця дырэктар школы і завуч пасадзілі Івана Ігнатавіча за сталом паміж сабой, але ўвагай яго завалодаць так і не ўдалося. Пасля першай жа чаркі яны былі паспрабавалі загаварыць з ім пра сур'ёзныя праблемы, дык ім перашкодзіла заалагічка Зоя Кірэеўна, маладая настаўніца, якая толькі першы год працавала ў школе. Яна сядзела насупраць і праз стол распытвала ў Івана Ігнатавіча, як ён лавіў тых акунёў. Ёй, аказваецца, трэба было ведаць усе падрабязнасці пра рыбную лоўлю. Раней у яе ніхто не заўважаў такой цікаўнасці. Ну зусім лёгкадумная асоба! І не дзіва, што яна кожную суботу ездзіць у райцэнтр на танцы. Хаця дзеля аб'ектыўнасці варта сказаць, што Зоя Кірэеўна даволі прыгожанькая, нездарма, гэта ўсе заўважылі, па ёй уздыхае завуч, стары халасцяк. Ды вось і цяпер нават сам Іван Ігнатавіч такі ўважлівы да яе, што аж вакол нікога не заўважае, а толькі ёй і расказвае, як яму ўдалося падчапіць даволі ладнага акунька, расказвае з такой дзіцячай захопленасцю, нібы гэтая падзея была самая цікавая ў яго жыцці:

— Стаў я цягнуць таго акуня, а ён у пельку не лезе. Адпусціў яго, думаю, няхай пацешыцца жыццём, пакуль пельку большую зраблю. І выцягнуў жа...—расказваў Іван Ігнатавіч і не забываўся глытнуць каньячку з келішка, кінуць у рот кавалачак сыру, ці круты жаўточак.—Вось якая мая сёння ўдача.

А за сталом бурліла бязладная гаворка. Да завуча і дырэктара падыходзілі госці, усе хацелі чокнуцца з былымі настаўнікамі, а іншыя аж лезлі цалавацца.

— Танцы, сябры!— аб'явіў Баранчук, спадзяючыся, што Іван Ігнатавіч танцаваць не пойдзе: такі салідны чалавек!— і тады яны з ім разгаворацца.

Зайграла радыёла. Сталы адсунулі да сцен. Першая пара закружылася на скрыпучых масніцах.

— Ну няхай маладыя патанцуюць, а мы з вамі пакурым,— працягнуў дырэктар пачак папярос Івану Ігнатавічу.

— Калі ўсе так лічаць, як вы, дык я сапраўды сёння не патанцую, — засмяяўся Іван Ігнатавіч і ўсё ж папяросу ўзяў, пакруціў яе ў тоўстых пальцах, і, уступаючы дарогу дырэктару, скіраваў да выхаду. І тут перахапіла яго Зоя Кірэеўна.

— Што ж вы ад нас уцякаеце, Іван Ігнатавіч? Я вас нікуды не пушчу, — схапіла яна яго за руку.— Пойдземце танцаваць.

— Не дала і пагаварыць з чалавекам,— паскардзіўся дырэктар завучу.

— Вось гэта Зоя!— смяяўся той.— Трэба было ёй даручыць пагаварыць пра школу.

— Ды кінь ты,— злаваўся Баранчук.

— А ты паглядзі, якая яна,— не супакойваўся Платон Ціханавіч, не адрываючы вачэй ад заалагічкі.— Ты ж паглядзі, якая яна! Я заўсёды лічыў, што яна...

— Нахабніца, ды і толькі, — не падзяляў яго захаплення дырэктар.

Зоя Кірэеўна побач з Іванам Ігнатавічам, няўклюдным і нейкім цяжкім у рухах, выглядала ледзьве не семнаццаткай — танклявая, высокая, стромкая. Яна няспынна смяялася. Шчокі расчырванеліся. Іван Ігнатавіч не хаваў захаплення настаўніцай і аж пацеў ад старання.

— Глядзі, як яна толькі прыкідваецца,— цадзіў праз зубы Баранчук.

— Ды бачу,— уздыхнуў завуч.— Але адчайвацца пакуль няма чаго. У нас яшчэ увесь вечар наперадзе,— ён наліў сабе каньяку, выпіў, закусваць не стаў.— Пайду з кім у шахматы пагуляю...—і пакульгаў да дзвярэй.

Баранчук сядзеў і не спускаў вачэй з Івана Ігнатавіча. Да дырэктара падыходзілі яго былыя выхаванцы, але ён не вельмі быў гаваркі з імі.

Зоя Кірэеўна, відаць, добра асвоілася са сваім кавалерам і нешта смешнае расказвала яму, а той смяяўся, як хлапчук, аж матаў галавой. Вось яны пакінулі круг, падышлі да стала, распілі бутэльку ліманада, зноў пайшлі танцаваць: Івану Ігнатавічу было горача, ён зняў гальштук, і сунуў яго ў кішэню...

Раптам да Баранчука падсеў Ігар Петушок, геолаг. Дырэктар ведаў яго. Петушок часта за свой неспакойны характар трапляў на споведзь у настаўніцкую. Ён і цяпер не мог спакойна усядзець, круціўся, азіраўся, падхопліваўся, садзіўся зноў. Ён ні пра што не распытваў, як іншыя, а расказваў сам:

— Фёдар Кірылавіч, запомніце. Я

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**




КОТ быў шэры, худы, з рэдзенькай шэрсцю. Гаспадар падабраў яго пад тэлеграфным слупам, мокрага і бруднага, і прынёс за пазухай дадому. Кот амаль суткі праспаў пад ганкам.

Вылез ён адтуль раніцай, выгнуўся спружынай і, гледзячы на чырвоную патэльню сонца, пазяхнуў. А на двары ў гэты час прагульвалася курыца-квактуха з кураняткамі. Раптам з неба на куранят зваліўся каршун. Курыца закрычала, кураняткі запішчалі, гаспадыня пляснула рукамі. З хаты выбег гаспадар з тапаром, але зачапіўся аб нешта і расцягнуўся на ганку. І толькі кот...

Праз хвіліну каршун дрыгаў крыламі ў агоніі, квактуха нервова склікала сваіх дзетак, а гаспадар замілавана пазіраў на ката.

— Малайчына, — пахваліў яго гаспадар.

— Ну, што вы, — сарамліва адказаў той. — На маім месцы кожны кот зрабіў бы тое ж.

— Мышэй ты ловіш? — пацікавілася гаспадыня.

— Ага! — усклікнуў кот. — Гэта ж галоўны профіль маёй работы. Дазвольце прыступіць?

— Прыступай, Малайчына, — лагодна сказаў гаспадар.

Так кот атрымаў ганаровае імя і баявое заданне. З тае пары не стала жыцця мышам ні ў амбары, ні ў каморы, ні на гары, ні ў склепе. Малайчына падпільноўваў іх днём і ноччу, не ведаў святаў і выхадных, нават асабістае жыццё адсунуў на другі план.

Гаспадары не маглі ім нахваліцца. Па ўсёй вёсцы пайшла гамонка пра цудоўнага ката. Нейкія зухаватыя мужыкі спрабавалі нават украсці яго, але Малайчына мужна адбіў іх замашкі і нават смачныя прапановы суседзяў не зламалі яго вернасці гаспадарам. Кот не паважаў летуноў і абібокаў, любіў працаваць на адным месцы і аддаваў рабоце ўвесь жар свайго сэрца, усё сваё прафесійнае майстэрства.

— Хіба ў вас каты? — кпіў з іншых яго гаспадар. — Лайдакі яны, ласыя на смятанку, гатовы сцібрыць, што дрэнна ляжыць. Мой не такі. Нальеш яму ў місачку сырадою, дык ён аж чырванее ад сарамлівасці. Угаворваць даводзіцца. Пры ім ніводнага мышаняці на двары не знойдзецца. Работнік адмысловы, што і гаварыць!

Такія размовы іншым катам выходзілі бокам. Іхнія гаспадары на кожным кроку саромілі іх; зачынялі на замкі сала і смятану, замест малака паказвалі хвігу.

Голад — не цётка, і каты паспрабавалі паляваць на мышэй. Але ранейшае сытае жыццё, дармовыя ласункі і гультайства звялі іх былое рамяство. Каты завылі. Адзін з іх (пра яго яшчэ Крылоў пісаў) унёс на сходзе прапанову:

— Управім, браткі, гэтай выскачцы мазгі.

Прапанову прызналі слушнай.

— Цёмную яму! — закрычалі маладыя каты, якія не тое што лавіць мышэй, але і сустракацца з імі баяліся.

— Забараніць Мурцы сустракацца з адступнікам, — прасіпеў стары кот-зайздроснік.

— Забараніць! Забараніць! — узнялі гвалт каты.

— Калі ласка, — раўнадушна адказала Мурка. — Усё роўна ад яго карысці, як ад казла малака. На спатканні спазняецца, усё работа ды работа, а прыйдзе, дык ніколі падарунка не прынясе. Толькі мышамі частуе. А я каўбасу доктарскую паважаю.

Малайчыну падпільнавалі ля склепа. Цяжка ўздыхала зыркатая поўня, гледзячы, як з бедалагі ляціць шэрсць, як войкае ён ад удараў пад бакі. Гаспадар знайшоў яго, ледзь жывога, у крапіве, прынёс у хату, выклікаў ветэрынара. А праз тыдзень Малайчына зноў заступіў на працоўную вахту.

— Цяпер твая чарга, Мурка, — сумна сказаў Крылоўскі кот. — На цябе надзея.

— Паспрабую, — адказала Мурка і грацыёзна прылізалася.

Яны сустрэліся ля бэзу. У паветры разліваўся водар кветак. Малайчына млеў ад кахання і радасці.

— Пусці, мядзведзь, — соладка ўсміхаючыся, казала Мурка, адпіхваючы Малайчыну. — Хіба так кахаюць?

— А як? — дрыжачым шэптам пытаўся Малайчына. — Я ж табе такую тлустую мыш прынёс...

— Фі! Што мыш? Не па маім гусце страва. У твайго гаспадара, я ведаю, доктарская каўбаса ёсць.

— Пабойся бога, Мурачка! — жахліва ўсклікнуў Малайчына. — Красці я не буду.

— Так ты мяне кахаеш, — пакрыўджана ўздыхнула прытворшчыца.

— Маё каханне да цябе чыстае і светлае, — адказаў Малайчына. — Але нават дзеля цябе я не здраджу гаспадару.

Яны разышліся, расчараваныя адно адным. Ішоў час. Іншыя каты паціху пакідалі сваіх гаспадароў, перабіраліся ў другія вёскі. І калі ў гаспадара Малайчыны ў хаце быў парадак, то ў іншых дамах панавалі мышы. Малайчына бачыў гэта і аднойчы сказаў гаспадару:

— Вось чарцяжы. Я тыдзень працаваў над гэтым агрэгатам.

— Што яшчэ за агрэгат? — спахмурнеў гаспадар.

— Аўтакапкан на мышэй. Зрабіць не цяжка, а эфект вялікі. З гэтым прыстасаваннем ні адзін кот не патрэбен. Танна і зручна. Вашы сябры-гаспадары дзякуй скажуць.

Гаспадар узяў чарцёж, пакруціў яго і парваў на маленькія кавалачкі. Малайчына абамлеў.

— Вы кансерватар! — абурана закрычаў ён.

— Ах ты, чортава семя! — узлаваўся той. — Павучаць мяне? Ды на тваё месца дзесяць галадранцаў знойдзецца! Вон з двара! Толькі смуту ў вёску занёс. Вон!

І гаспадар выкінуў Малайчыну. Той абтросся на вуліцы і пашкандыбаў у свет божы. А праз месяц, далёка адсюль, нейкі чалавек падабраў ката, мокрага і бруднага, пад тэлеграфным слупам.

Васіль ГАПАНОВІЧ

## ДА БЛІЗКІХ СЯБРОЎ

Сябры! Скажу вам па сакрэту,
Скажу не ўсім, а толькі вам:
Хачу пралезці я ў паэты,
А таленту — ну, хоць бы грам.

Паэзіі не разумею,
Але даруйце мне грахі...
Для тых пісаць я вершы ўмею,
Хто у паэзіі глухі.

Калі ж чытач сур'ёзны, кемны
Асмеліцца ўчыніць разнос,
Я кіну ў твар яму: «Дарэмна!
Браток, ты проста не дарос».

Я мару выдаць першы зборнік,
А там за першым і другі...
Няхай ніхто іх не разгорне,
Няхай... Ды ўсё-ткі неблагі

Паэт ідзе ў літаратуру;
Ён не шапёрка — козыр-туз:
Прымай мяне з маёй фактурай,
Прымай, пісьменніцкі саюз!

Мікола НАВІЦКІ

## РАЦПРАПАНОВА

Наведайце мяне па тэлефоне,
Так надвячоркам, калі чай піць час.
Вы ж ведаеце: стомленасць агорне,
Ды і прыпынак воддалек ад нас.

Шчэ, чаго добрага, і ліфт у нас адкажа,
І нас, хто ведае, мо' дома не застаць.
Ды ўрэшце і прынос патрэбен, кажуць,
А грошы ж, не сакрэт, цяпер—вада.

Ды і візіту сэнс — адныя плёткі.
І стол жа трэ' накрыць, калі хто ёсць.
А тут табе ні шклянак і ні сподкаў.
Набраў шэсць лічбаў і — ты лепшы госць!

Дык, калі ласка, дарагі, прыходзьце!
Пагутарым, за чаркай пасядзім.
Найлепшы той з гасцей, што йдзе па дроце.
Рацпрапанову гэтую — усім!

Ул. САФРОНАЎ

## ПРЫЗНАЛІ

— Сябрук, дзе быў?

— Насіў у рэдакцыю сваё гумарэскі.

— І як—смяяліся?

— Ага. Як выйшаў.

Фелікс ДЭРЭЦКІ

## АНАНІМ

Ва ўсіх, хто сядзеў у прыёмнай пракурора, быў сумны выгляд. Выключэнне толькі я, выкліканы сведкам з-за дробязнай справы. Ведаючы, што мая справа — па сутнасці пустая фармальнасць, я спакойна пакурваў і ад няма чаго рабіць разглядаў посныя фізіяноміі прысутных. Мой сусед справа нерваваўся, бадай, больш за ўсіх. Ён пакусваў вусы, раз-пораз глытаў сліну, нешта балбатаў сабе пад нос і час ад часу злосна тупаў нагой.

— Усё ж няма на свеце справядлівасці, — звярнуўся ён да мяне, відаць, маючы патрэбу выказацца. — З-за адной паршывай авечкі чалавеку можа стаць свет не мілы. Думаеце, прыемна, калі цябе выклікаюць да пракурора?..

— А што ў вас здарылася? — запытаў я.

— Скаргу нехта паслаў, што ў нашым звярынцы абкрадаюць жывёл. Нібыта замест добрага мяса ім даюць нейкія адкіды, а траваедным не цытрусавыя і бананы, а звычайныя яблыкі і розны мясцовы эрзац.

Пра гэтую размову я ўспомніў праз некалькі тыдняў, калі са сваім хлапчанём пайшоў у звярынец і ўбачыў там майго знаёмага, з якім давялося гутарыць у прыёмнай пракурора. Ён якраз сыпаў папугаям корм.

— А, гэта вы! — пазнаў ён мяне.

— Што чуваць? — запытаў я.

Ён падышоў да мяне і пачаў даверліва шаптаць.

— Лепш не расказваць, скаргі ўсё нехта піша, усіх выклікаюць... Не даўмецца, чыя гэта работа.

— А па почырку нельга пазнаць?

— Дык ён жа не дурань, каб пісаць ад рукі. Выразвае літары з газет, наклейвае на паперу і пасылае. Мусіць, набіў руку на такіх справах, нагледзеўся дэтэктываў па тэлебачанні. Спакою няма з-за яго, адзін аднаго пачалі падазраваць. Ці ж можна разабрацца, хто сюды ходзіць з-за цікавасці да жывёл, а хто дзеля праверкі? У дырэкцыі сядзяць рэвізоры і стараюцца вывесці ўсіх на чыстую ваду.

Я сказаў некалькі спагадлівых слоў і пайшоў далей. Але каля выхаду мы з ім зноў сустрэліся.

— У апошнім лісце, — працягваў ён, паведамлялася, што адзін наш супрацоўнік купіў легкавую машыну. «За якія грошы ён яе купіў, калі атрымлівае дзве тысячы ў месяц? Калі, нарэшце, адпаведныя органы звернуць увагу на становішча безабаронных жывёл?» Так заканчваўся ліст.

Другі раз я пайшоў у звярынец з малой пляменніцай, якая з мамай прыехала з правінцыі і надта хацела паглядзець на дзікіх звяроў. Зранку наведвальнікаў амаль не было. Падышоўшы да клетак з малпамі, я заўважыў, што каля аднае з іх нехта валтузіцца са старым шымпанзе.

— Вам дапамагчы? — запытаў я.

— Нарэшце папаўся! — выгукнуў мой добры знаёмы і паказаў аркуш паперы, які ён адабраў у шымпанзе. Вось тэкст, складзены з наклееных на паперу газетных літар: «Паважаны грамадзянін пракурор! Паведамляю, што пры будаўніцтве вальера для белых мядзведзяў шмат што раскрадзена. Большая частка металічных канструкцый і цэменту прададзена для будаўніцтва прыватных дачаў».

— Вы бачыце, як гэта ён рабіў? — мой знаёмы паказаў мне нажніцы. — Ну пачакай жа, ты больш у мяне не захочаш займацца крытыкай! — Памахаўшы малпе кулаком, ён з «рэчавымі доказамі» накіраваўся ў дырэкцыю.

Я паглядзеў на замаркочанага шымпанзе, а потым на аб'яву, якая папярэджвала, што жывёлам забаронена даваць якія-небудзь прадметы. І зразумеў сэнс перасцярогі.

Пераклаў з польскай А. ПЯКАРСКІ.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 02093